# ДЗЕІ АПОСТАЛАЎ

## 1 (1-26)

[1]Першую кнігу я напісаў, Тэафіле, пра ўсё, што рабіў Езус і чаму вучыў ад
пачатку [2]аж да дня, калі, даўшы праз Духа Святога наказы Апосталам, якіх
выбраў, быў забраны на неба. [3]Перад імі з’явіўся жывым пасля сваёй мукі ў
шматлікіх доказах. На працягу сарака дзён аб’яўляўся ім і казаў пра Божае
Валадарства. [4]Калі разам елі, наказаў ім: «Не адыходзьце з Ерузалема, але
чакайце абяцанага Айцом, пра што вы чулі ад Мяне: [5]Ян хрысціў вадою, а вы
будзеце ахрышчаныя праз некалькі дзён Духам Святым».
[6]Таму сабраныя пыталіся ў Яго: «Пане, ці не ў гэтым часе Ты адбудуеш
каралеўства Ізраэля?» [7]Ён жа адказаў ім: «Не вам ведаць часы ці поры, якія
Айцец прызначыў сваёй уладай. [8]Але прымеце моц Духа Святога, які на вас
сыдзе, і будзеце Маімі сведкамі ў Ерузалеме і ва ўсёй Юдэі, і ў Самарыі, і ажно
да краю зямлі».
[9]Калі сказаў гэта, яны ўбачылі, як Ён узнёсся, і воблака забрала Яго з іхніх
вачэй. [10]Калі яны пільна ўзіраліся ў неба, як Ён узыходзіў, вось два мужы сталі
перад імі ў белым адзенні [11]і сказалі: «Галілейцы, чаго стаіце і ўглядаецеся ў
неба? Гэты Езус, забраны ад вас на неба, прыйдзе таксама, як вы бачылі Яго,
калі Ён узыходзіў на неба».
[12]Тады вярнуліся ў Ерузалем з гары, называнай Аліўнай, што непадалёк ад
Ерузалема, на адлегласці шабатовай дарогі. [13]А калі прыйшлі, падняліся ў
святліцу, дзе быў Пётр і Ян, Якуб і Андрэй, Філіп і Тамаш, Барталамей і
Мацвей, Якуб Алфееў і Сымон Зелот, і Юда Якубаў. [14]Усе яны сумесна трывалі
ў малітве разам з жанчынамі і Марыяй, маці Езуса, і з братамі Ягонымі.
[15]У тыя дні Пётр стаў сярод вучняў, а сабралася разам каля ста дваццаці
чалавек, і сказаў: [16]«Браты, належала споўніцца словам Пісання, якія Дух Святы
прадказаў вуснамі Давіда пра Юду, стаўшага правадыром для тых, хто схапіў
Езуса. [17]Бо ён быў залічаны да нас і атрымаў удзел у тым самым служэнні. [18]За
плату беззаконня ён набыў поле, і калі павесіўся, трэснуў напалам, і вывалілася
ўсё нутро яго. [19]І даведаліся пра гэта ўсе жыхары Ерузалема, таму поле гэтае на
іх уласнай мове было названа Акелдама, што значыць “поле крыві”. [20]Бо ў кнізе
Псальмаў напісана:
*“Няхай апусцее жыллё ягонае,*
*і няхай не будзе жыхароў у ім”*,
і: *“Пасаду ягоную няхай зойме іншы”*.
[21]Таму трэба, каб з тых мужоў, якія былі з намі ўвесь час, калі заставаўся з
намі Пан Езус, [22]пачынаючы ад Янавага хросту аж да дня, калі быў забраны ад
нас на неба, адзін стаў разам з намі сведкам Яго ўваскрасення».
[23]І паставілі дваіх: Юзафа, якога звалі Барсабам, а называлі Юстам, і
Мацея. [24]Памаліўшыся, сказалі: «Ты, Пане, ведаеш сэрцы ўсіх, пакажы з гэтых
двух аднаго, якога Ты выбраў, [25]каб ён заняў месца ў гэтым служэнні і
апостальстве, ад якога адышоў Юда, каб пайсці на сваё месца». [26]І далі ім лёсы,
і выпаў лёс на Мацея, і ён быў далучаны да адзінаццаці Апосталаў.

## 2 (1-47)

[1]Калі настаў дзень Пяцідзесятніцы, усе былі разам у тым самым месцы. [2]І
раптам узняўся шум з неба, нібы павеў моцнага ветру, і напоўніў увесь дом, дзе
сядзелі яны. [3]І з’явіліся ім языкі падзеленыя, быццам ад агня, і затрымаліся на
кожным з іх. [4]І напоўніліся ўсе Духам Святым, і пачалі гаварыць на іншых
мовах, як Дух даваў ім прамаўляць.

[5]Былі ў Ерузалеме жыхары Юдэі, людзі пабожныя з усякага народу пад
небам. [6]Калі ўзняўся шум гэты, сабралася мноства людзей і захвалявалася, бо
кожны з іх чуў, што яны гавораць на ягонай мове. [7]Былі ўражаныя і здзіўляліся,
кажучы: «Ці ж усе тыя, хто гаворыць, не галілейцы? [8]Як жа мы чуем кожны
сваю мову, у якой нарадзіліся? [9]Парфяне і мідзяне, і эламіты, і жыхары
Месапатаміі, Юдэі і Кападокіі, Понта і Азіі, [10]Фрыгіі і Памфіліі, Егіпта і частак
Лівіі, сумежных з Кірынэяй, ды прыезджыя рымляне, [11]юдэі і празеліты,
крыцяне і арабы, — мы чуем, што яны гавораць нашымі мовамі пра вялікія
справы Божыя». [12]Усе былі ўражаныя і ў замяшанні, кажучы адзін аднаму:
«Што гэта значыць?» [13]А іншыя з насмешкай казалі: «Яны напіліся маладога
віна».

[14]Тады ўстаў Пётр разам з Адзінаццаццю, узняў рукі свае і прамовіў
моцным голасам да іх: «Мужы юдэйскія і ўсе жыхары Ерузалема, пазнайце і
выслухайце мае словы. [15]Яны не п’яныя, як вы думаеце, бо яшчэ толькі трэцяя
гадзіна дня, [16]але гэта тое, што было сказана праракам Ёэлем:

[17]*“І будзе* ў апошнія дні, — кажа Бог:
*Я пралью з Духа Майго на кожнае цела,*
*і будуць прарочыць сыны вашыя і дочкі вашыя,*
*а юнакі вашыя будуць бачыць візіі,*
*а старцам вашым будуць сніцца сны.*
[18]*І на слуг Маіх, і на служанак Маіх*
*у тыя дні Я пралью Духа Майго,*
і яны будуць прарочыць.
[19]*І ўчыню цуды на небе ўверсе, і знакі на зямлі ўнізе:*
*кроў, і агонь, і клубы дыму.*
[20]*Сонца абернецца ў цемру,*
*а месяц — у кроў,*
*перш чым настане дзень Пана,*
*вялікі і слаўны.*
[21]І кожны, хто пакліча імя Пана, будзе збаўлены”.

[22]Мужы ізраэльскія, выслухайце гэтыя словы: Езус з Назарэта быў
чалавекам, якога Бог паказаў вам у сіле, цудах і знаках, якія Бог учыніў праз
Яго сярод вас, як і самі ведаеце. [23]Яго, выдадзенага паводле вызначанай волі і
прадбачання Божага, вы, укрыжаваўшы рукамі бязбожных, забілі. [24]Але Бог
уваскрасіў Яго, вызваліўшы ад мукаў смерці, бо немагчыма было, каб яна
трымала Яго. [25]Давід жа гаворыць пра Яго:

*“Пана я маю заўсёды перад вачыма,*
*бо Ён праваруч мяне, каб я не пахіснуўся.*

*[26]Таму радуецца маё сэрца*
*і весяліцца язык мой,*
*і цела маё будзе спачываць у надзеі.*
*[27]Бо не пакінеш душы маёй у адхлані,*
*і не дасі Святому Твайму ўбачыць тленне.*
*[28]Ты даў мне пазнаць дарогі жыцця.*
*Ты напоўніш мяне радасцю перад абліччам Тваім".*

[29]Браты, дазвольце мне сказаць вам адкрыта пра патрыярха Давіда, які памёр і пахаваны, і магіла ягоная знаходзіцца сярод нас па сённяшні дзень. [30]Будучы ж прарокам і ведаючы, што *Бог прысягнуў яму пасадзіць на ягоным троне патомка ягонага*, [31]ён прадбачыў і казаў пра ўваскрасенне Хрыста, што Ён *не застанецца ў адхлані, і* цела Ягонае *не ўбачыць тленне*.

[32]Гэтага Езуса ўваскрасіў Бог, чаму ўсе мы сведкі. [33]Вось, узнесены правіцаю Бога і атрымаўшы ад Айца абяцанне Духа Святога, Ён праліў Яго, як вы бачыце і чуеце. [34]Бо Давід не ўзышоў на неба, але сам ён кажа:
*"Пан сказаў майму Пану: Сядай праваруч Мяне,*
*[35]пакуль не пакладу ворагаў тваіх да падножжа Твайго".*

[36]Няхай кожны дом Ізраэля цвёрда ведае, што гэтага Езуса, якога вы ўкрыжавалі, Бог зрабіў і Панам, і Месіяй».

[37]Калі ж пачулі гэта, змягчэла сэрца іхняе, і яны сказалі Пятру і астатнім Апосталам: «Што нам рабіць, браты?» Сказаў ім Пётр: [38]«Пакайцеся, і няхай кожны з вас ахрысціцца ў імя Езуса Хрыста дзеля адпушчэння грахоў вашых, і атрымаеце дар Духа Святога. [39]Бо вам належыць абяцанне і дзецям вашым, і ўсім тым, хто далёка, каго толькі пакліча Пан Бог наш». [40]І многімі іншымі словамі ён сведчыў і навучаў, кажучы: «Ратуйцеся ад гэтага падступнага пакалення». [41]Тыя ж, хто прыняў слова ягонае, ахрысціліся. І далучылася ў гэты дзень да іх каля трох тысяч людзей.

[42]І трывалі яны ў вучэнні Апосталаў і ў супольнасці, у ламанні хлеба і ў малітвах. [43]І быў страх у кожнай душы; шмат цудаў і знакаў чынілі Апосталы. [44]Усе ж вернікі былі разам, і ўсё ў іх было супольнае; [45]і прадавалі набытак свой і маёмасць, і дзялілі паміж усімі, хто меў патрэбу. [46]Штодня збіраліся аднадушна ў святыні, і ламаючы дома хлеб, яны спажывалі ежу ў радасці і прастаце сэрца, [47]праслаўляючы Бога і маючы прыхільнасць усяго народу. А Пан штодня далучаў да іх тых, хто меў быць збаўлены.

## 3 (1-26)

[1]А дзевятай гадзіне Пётр і Ян уваходзілі ў святыню на малітву. [2]І быў там чалавек, кульгавы ад нараджэння, якога прыносілі і садзілі штодня каля брамы святыні, што звалася Прыгожай, каб ён прасіў міласціну ў тых, хто ўваходзіў у святыню. [3]Калі ён убачыў Пятра і Яна, якія збіраліся ўвайсці ў святыню, папрасіў у іх міласціну. [4]Пётр, прыгледзеўся з Янам да яго і сказаў: [5]«Паглядзі на нас». І ён паглядзеў на іх, спадзеючыся што-небудзь атрымаць. Але Пётр сказаў: [6]«Срэбра і золата не маю, але што маю, тое даю табе: у імя Езуса Хрыста з Назарэта, устань і хадзі!» [7]І, узяўшы яго за правую руку, падняў яго.

Адразу ўмацаваліся ногі яго і ступні. [8]Ён ускочыў, устаў і пачаў хадзіць, і
ўвайшоў з імі ў святыню, ходзячы, падскокваючы і славячы Бога. [9]Усе людзі
бачылі, як ён хадзіў і славіў Бога. [10]І пазналі яго, што гэта быў той, які сядзеў
каля Прыгожай брамы святыні дзеля міласціны, і напоўніліся жахам і
здзіўленнем ад таго, што сталася з ім.

[11]Ён не адступаўся ад Пятра і Яна, таму ўвесь народ у здзіўленні збегся да
іх на ганак, званы Саламонавым. [12]Убачыўшы гэта, Пётр сказаў народу: «Мужы
ізраэльскія, чаго здзіўляецеся? Чаго так глядзіце на нас, быццам мы ўласнай
сілаю або пабожнасцю зрабілі так, што ён ходзіць? [13]*Бог Абрагама, Ісаака і
Якуба, Бог айцоў нашых* уславіў Слугу свайго, Езуса, якога выдалі вы і
адракліся ад Яго перад Пілатам, калі той вырашыў адпусціць Яго. [14]Вы
адракліся ад Святога і Справядлівага, а прасілі памілаваць забойцу. [15]Вы забілі
Пачынальніка Жыцця, якога Бог уваскрасіў з мёртвых, чаго мы сведкі. [16]І праз
веру ў імя Ягонае таго, каго бачыце і ведаеце, імя гэтае ўмацавала. Вера, што
паходзіць ад Яго, дала яму гэтае аздараўленне перад усімі вамі.

[17]Цяпер, браты, я ведаю, што вы зрабілі гэта з няведання, як і кіраўнікі
вашыя. [18]А Бог здзейсніў тое, што абвяшчаў вуснамі ўсіх прарокаў, што
Памазанік Яго будзе цярпець. [19]Дык пакайцеся і навярніцеся, каб знішчаныя
былі грахі вашыя, [20]каб прыйшла ад Пана гадзіна палёгкі, і каб паслаў Ён вам
таго, хто быў прадказаны, — Езуса Хрыста, [21]якога неба павінна было прыняць
да часоў аднаўлення ўсяго, пра што спрадвеку казаў Бог вуснамі сваіх святых
прарокаў. [22]Майсей сказаў: *“Пан Бог дасць вам Прарока з братоў вашых,
падобнага да мяне; слухайцеся Яго ва ўсім, што Ён* вам *скажа.* [23]*І кожны, хто
не паслухае таго Прарока, будзе знішчаны ў народзе”.* [24]І ўсе прарокі, якія
прамаўлялі з часоў Самуэля і пасля яго, абвяшчалі дні гэтыя.

[25]Вы — сыны прарокаў і запавету, які Бог заключыў з айцамі вашымі,
кажучы Абрагаму: *“Благаслаўлёныя будуць у тваім патомстве ўсе народы
зямлі”.* [26]Для вас найперш Бог уваскрасіў Слугу свайго і паслаў Яго, каб Ён
благаславіў вас і адвярнуў кожнага ад беззаконняў вашых».

## 4 (1-37)

[1]Калі яны прамаўлялі да народу, падышлі да іх святары і дазорац святыні, і
садукеі, [2]абураныя тым, што яны навучаюць народ і абвяшчаюць уваскрашэнне
ў Езусе. [3]І схапілі іх, і кінулі ў вязніцу да раніцы, бо ўжо быў вечар. [4]А многія з
тых, хто чуў прамову, паверылі. І было каля пяці тысяч мужчын.

[5]На другі дзень сабраліся іх правадыры, старэйшыны і кніжнікі ў
Ерузалеме, [6]і першасвятар Анна, і Каяфа, і Ян, і Аляксандр ды іншыя, што былі
з роду першасвятарскага. [7]Яны паставілі іх пасярэдзіне і пыталіся: «Якою
моцаю або чыім імем вы зрабілі гэта?» [8]Тады Пётр, напоўнены Духам Святым,
сказаў ім: «Правадыры народу і старэйшыны, [9]калі нас сёння дапытваюць за
добры ўчынак, дзякуючы якому гэты хворы чалавек выздаравеў, [10]то няхай
будзе вядома вам і ўсяму народу ізраэльскаму, што гэты чалавек стаіць перад
вамі здаровы дзякуючы імені Езуса Хрыста, Назараніна, якога вы ўкрыжавалі і
якога Бог уваскрасіў з мёртвых.

[11]Ён — *камень, які* вы*, будаўнікі, адкінулі,*
*і які стаўся галавою вугла*.
[12]І няма ні ў кім іншым збаўлення, бо няма іншага імя пад небам, дадзенага
людзям, у якім мы можам атрымаць збаўленне».
[13]Бачучы адвагу Пятра і Яна, і даведаўшыся, што гэта людзі непісьменныя
і простыя, дзівіліся. І пазналі іх, што яны былі з Езусам. [14]Гледзячы на
аздароўленага чалавека, які стаяў з імі, нічога не маглі адказаць. [15]Загадаўшы ім
выйсці з месца пасяджэнняў, раіліся паміж сабою, кажучы: [16]«Што нам рабіць з
гэтымі людзьмі? Бо яны ўчынілі відавочны цуд, пра які стала вядома ўсім
жыхарам Ерузалема. І мы не можам запярэчыць гэтаму. [17]Але, каб гэта далей не
пашыралася ў народзе, забаронім ім пад пагрозаю, каб не прамаўлялі больш ад
гэтага імя да ніводнага чалавека». [18]Тады паклікалі іх і забаранілі ім увогуле
прамаўляць і навучаць у імя Езуса. [19]Але Пётр і Ян адказалі ім: «Падумайце, ці
справядліва перад Богам слухацца вас больш, чым Бога? [20]Мы не можам
маўчаць пра тое, што бачылі і чулі». [21]А тыя зноў прыгразілі і адпусцілі іх, таму
што з-за людзей не змаглі пакараць іх, бо ўсе славілі Бога за тое, што сталася.
[22]Бо больш за сорак гадоў было таму чалавеку, з якім стаўся гэты цуд
аздараўлення.
[23]Калі іх адпусцілі, яны прыйшлі да сваіх і паведамілі, што сказалі ім
першасвятары і старэйшыны. [24]Тыя, выслухаўшы іх, узнялі разам голас да Бога
і сказалі: «Валадару, *Ты стварыў неба і зямлю, і мора, і ўсё, што ў іх*. [25]Ты праз
Духа Святога вуснамі айца нашага Давіда, слугі Твайго, сказаў:
*“Чаму бунтуюцца язычнікі*
*і народы задумалі марнае?*
[26]*Паўсталі каралі зямлі*
*і валадары сабраліся разам*
*супраць Пана і супраць Памазаніка Яго”.*
[27]Бо, сапраўды, супраць святога Слугі Твайго Езуса, якога Ты намасціў,
сабраліся ў гэтым горадзе Ірад і Понцій Пілат разам з язычнікамі і народам
Ізраэля, [28]каб учыніць тое, што Твая рука і воля Твая прадвызначыла. [29]І цяпер,
Пане, паглядзі на пагрозы іхнія і дай слугам Тваім з усёй адвагаю абвяшчаць
слова Твае. [30]Выцягні сваю руку дзеля аздараўлення, няхай стануцца знакі і
цуды ў імя святога Слугі Твайго Езуса».
[31]І калі памаліліся, затрэслася месца, на якім яны сабраліся, і ўсе
напоўніліся Духам Святым, і адважна абвяшчалі Божае слова.
[32]Усе тыя, хто паверыў, былі адзіныя сэрцам і душою, і ніхто не называў
уласным нічога з маёмасці сваёй, якая належала яму, але ўсё ў іх было
супольнае. [33]Апосталы з вялікай моцаю давалі сведчанне пра ўваскрасенне
Пана Езуса, і ўсе яны мелі вялікую ласку. [34]Не было сярод іх нікога, хто б
цярпеў нястачу, бо ўсе, хто валодаў зямлёю або дамамі, прадавалі іх [35]і
прыносілі грошы ад продажу, і клалі да ног Апосталаў. А раздавалася кожнаму
паводле патрэбы ягонай. [36]Юзаф жа, якога Апосталы называлі Барнабам, што
азначае «сын суцяшэння», левіт, родам з Кіпра, [37]прадаў зямлю, якую меў,
прынёс грошы і паклаў да ног Апосталаў.

## 5 (1-42)

[1]Адзін чалавек, па імені Ананія, са сваёй жонкай Сапфірай, прадаў свой
набытак [2]і ўтаіў з ведама жонкі частку вырučаных сродкаў, а частку прынёс і
паклаў перад нагамі Апосталаў. [3]Але Пётр сказаў: «Ананія, чаму сатана
напоўніў тваё сэрца, каб ты зманіў перад Духам Святым і ўтаіў частку сродкаў
за зямлю? [4]Хіба тое, што ты меў, не было тваім, а прададзенае ці не было ў
тваёй уладзе? Чаму ты задумаў гэта ў сваім сэрцы? Ты зманіў не перад людзьмі,
а перад Богам!» [5]Пачуўшы гэтыя словы, Ананія ўпаў і памёр. І вялікі страх
ахапіў усіх, хто чуў гэта. [6]Юнакі ўсталі, узялі яго, вынеслі і пахавалі.
[7]Гадзіны праз тры прыйшла яго жонка, не ведаючы пра тое, што адбылося.
[8]Пётр спытаўся ў яе: «Скажы мне, ці за столькі вы прадалі зямлю?» Яна
адказала: «Так, за столькі». [9]Тады Пётр сказаў ёй: «Чаму гэта вы дамовіліся
выпрабоўваць Духа Панскага? Вось, на парозе ногі тых, хто пахаваў твайго
мужа, — яны вынесуць і цябе». [10]Яна адразу ўпала перад яго нагамі і аддала
духа. Юнакі ж, калі ўвайшлі, знайшлі яе мёртвай, і вынеслі, і пахавалі каля
мужа яе. [11]І вялікі страх ахапіў увесь Касцёл і ўсіх, хто чуў гэта.
[12]Рукамі Апосталаў было ўчынена ў народзе шмат знакаў і цудаў. Усе
аднадушна сыходзіліся на ганак Саламона. [13]З астатніх жа ніхто не асмельваўся
далучыцца да іх, а народ узвялічваў іх. [14]Усё больш праз веру далучалася да
Пана, мноства мужчын і жанчын, [15]так што выносілі хворых на вуліцы і клалі іх
на насілках і ложках, каб хоць цень Пятра, калі ён праходзіў, упала на каго-
небудзь з іх. [16]Сыходзілася таксама ў Ерузалем з навакольных мястэчак мноства
людзей, якія прыносілі хворых і апанаваных нячыстымі духамі, і ўсе яны
вылечваліся.
[17]Тады першасвятар і ўсе тыя, хто быў разам з ім, з кола садукеяў, поўныя
зайздрасці, [18]схапілі Апосталаў і кінулі іх у гарадскую турму. [19]Але ноччу анёл
Пана адчыніў дзверы вязніцы, вывеў іх і сказаў: [20]«Ідзіце і абвяшчайце народу ў
святыні ўсе словы жыцця гэтага». [21]Яны ж, паслухаўшыся, увайшлі раніцай у
святыню і навучалі.
Першасвятар і тыя, хто быў разам з ім, прыйшлі, склікалі Сінэдрыён і ўсіх
старэйшын сыноў Ізраэля, і паслалі ў вязніцу, каб прывялі Апосталаў. [22]Калі ж
слугі прыйшлі, не знайшлі іх у вязніцы. Вярнуўшыся, яны сказалі: [23]«Турма
была замкнёнай і ў поўнай бяспецы, і варта стаяла пры дзвярах. Аднак,
адчыніўшы, мы нікога там не знайшлі». [24]Калі дазорац святыні і першасвятары
пачулі гэтыя словы, не зразумелі, што сталася. [25]Але нехта прыбыў і сказаў ім:
«Вось мужы, якіх вы кінулі ў вязніцу, стаяць у святыні і навучаюць народ».
[26]Тады дазорац пайшоў са слугамі і прывёў іх без прымусу, таму што
баяліся народу, каб не закідалі іх камянямі. [27]Калі слугі прывялі Апосталаў у
Сінэдрыён, першасвятар спытаўся ў іх: [28]«Ці не строга забаранілі мы вам
навучаць у імя гэтае? І вось вы напоўнілі ўвесь Ерузалем вучэннем вашым і
хочаце абвінаваціць нас у крыві таго чалавека». [29]Пётр і Апосталы адказалі:
«Трэба слухацца Бога больш, чым людзей. [30]Бог айцоў нашых уваскрасіў Езуса,
якога вы схапілі і павесілі на дрэве. [31]Бог узвысіў Яго правіцаю сваёй як
Уладара і Збаўцу, каб даць Ізраэлю пакаянне і адпушчэнне грахоў. [32]І мы сведкі

гэтых слоў, і Дух Святы, якога Бог даў тым, хто паслухмяны Яму». [33]Тыя, калі
пачулі гэта, разгневаліся і вырашылі іх забіць.
[34]Адзін з фарысеяў па імені Гамаліэль, настаўнік Закону, паважаны ўсім
народам, устаў у Сінэдрыёне і загадаў на хвіліну вывесці гэтых людзей. Пасля
сказаў: [35]«Мужы ізраэльскія, добра падумайце, што хочаце зрабіць з гэтымі
людзьмі. [36]Бо нядаўна перад гэтым з’явіўся Тэўда, выдаючы сябе за кагосьці
вялікага. Далучылася да яго каля чатырохсот чалавек. Але ён быў забіты, і ўсе,
хто слухаў яго, разышліся і зніклі. [37]Пасля яго, падчас перапісу, з’явіўся Юда з
Галілеі і павёў народ за сабою. Але і ён загінуў, і ўсе, хто слухаўся яго,
рассеяліся. [38]І цяпер кажу вам: адступіцеся ад гэтых людзей і пакіньце іх. Бо
калі гэтая задума і гэтая справа ад людзей, то яна знікне, [39]а калі ад Бога, то вы
не здолееце знішчыць іх. Каб часам вы не змагаліся з Богам!»
І яны паслухаліся яго. [40]Паклікаўшы Апосталаў, збілі іх і забаранілі ім
прамаўляць у імя Езуса, і адпусцілі. [41]А яны пайшлі з Сінэдрыёна, радуючыся,
што былі годныя цярпець знявагу за гэтае імя. [42]Не пераставалі кожны дзень
навучаць у святыні і па дамах і абвяшчаць Евангелле пра Езуса Хрыста.

## 6 (1-15)

[1]У тыя дні, калі колькасць вучняў павялічвалася, эліністы пачалі наракаць
на габрэяў, што яны забываюць пра іхніх удоваў у штодзённым служэнні. [2]Тады
Дванаццаць склікалі ўсіх вучняў і сказалі: «Нягожа, каб мы занядбалі слова
Божае і служылі пры сталах. [3]Таму, браты, выберыце з вашага ліку сем мужоў
добрай славы, поўных Духа і мудрасці, якім даручым гэтую паслугу. [4]А мы
будзем трываць у малітве і служэнні слова». [5]Спадабалася гэта ўсёй грамадзе, і
абралі Стэфана, мужа поўнага веры і Духа Святога, і Філіпа, і Прохара, і
Міканора, і Тымона, і Пармэна, і Мікалая, празеліта з Антыёхіі, [6]якіх паставілі
перад Апосталамі. Яны, памаліўшыся, усклалі на іх рукі.
[7]А слова Божае пашыралася, і значна павялічвалася колькасць вучняў у
Ерузалеме. І шмат святароў паверыла.
[8]Стэфан, поўны ласкі і моцы, чыніў вялікія цуды і знакі сярод народу.
[9]Некаторыя з сінагогі, называнай лібертынскай і кірынэйскай, і
александрыйскай, і некаторыя з Цыліцыі і Азіі паўсталі і пачалі спрачацца са
Стэфанам. [10]Але не маглі супрацьстаяць мудрасці і Духу, з якімі ён прамаўляў.
[11]Тады яны падгаварылі людзей, каб казалі: «Мы чулі, як ён блюзнерыць
супраць Майсея і Бога». [12]І падбухторылі народ, старэйшых і кніжнікаў, і,
напаўшы, схапілі яго і павялі ў Сінэдрэён. [13]Паставілі ілжывых сведкаў, якія
казалі: «Гэты чалавек не перастае блюзнерыць супраць святога месца і Закона.
[14]Мы чулі, як ён казаў, што гэты Езус Назаранін зруйнуе гэтае месца і зменіць
звычаі, якія перадаў нам Майсей».
[15]І ўсе, хто сядзеў у Сінэдрыёне, уважліва глядзелі на яго і бачылі аблічча
ягонае, падобнае да аблічча анёла.

## 7 (1-60)

[1]Тады першасвятар сказаў: «Ці гэта так?» [2]І Стэфан адказаў: «Браты і
айцы, паслухайце. Бог славы аб’явіўся айцу нашаму Абрагаму, калі ён быў у
Месапатаміі, перш чым пасяліцца ў Харане. [3]*І сказаў яму: “Выйдзі з зямлі
сваёй, ад сваякоў сваіх і пайдзі ў зямлю, якую Я пакажу табе”*. [4]Тады ён
выйшаў з халдэйскай зямлі і пасяліўся ў Харане. Адтуль пасля смерці ягонага
бацькі Бог перасяліў яго на тую зямлю, дзе вы цяпер жывяце. [5]І не даў яму там
спадчыны нават на крок, але абяцаў *даць яе ва ўладанне яму і ягоным
нашчадкам*, хоць у яго яшчэ не было дзіцяці. [6]Бог сказаў яму, што *нашчадкі яго
будуць прышлымі на чужой зямлі, і будуць нявольнікамі, і будуць прыгнятаць іх
чатырыста гадоў.* [7]Але Бог сказаў: *“Я буду судзіць народ, якому яны будуць
служыць; а потым яны выйдуць і будуць служыць мне на гэтым месцы”*. [8]І
заключыў з ім запавет абразання. І так ён стаў бацькам Ісаака, і абрэзаў яго на
восьмы дзень. Ісаак стаў бацькам Якуба, а Якуб – дванаццаці патрыярхаў. [9]А
патрыярхі праз зайздрасць прадалі Юзафа ў Егіпет, але Бог быў з ім [10]і вызваліў
яго ад усякага ўціску, і *адарыў яго ласкай* і мудрасцю *ў вачах фараона, караля
егіпецкага, і паставіў яго кіраўніком над Егіптам і над усім яго домам*. [11]*Тады
прыйшоў голад на ўвесь Егіпет і Канаан* і вялікая бяда, і не знаходзілі айцы
нашы ежы. [12]Калі ж Якуб пачуў, што ў Егіпце ёсць збожжа, паслаў туды айцоў
нашых першы раз. [13]А на другі раз Юзаф адкрыўся сваім братам, і фараон
даведаўся пра ягоны род. [14]Тады Юзаф паслаў паклікаць свайго бацьку Якуба і
ўсю сваю сям’ю, што налічвала семдзесят пяць асоб. [15]Якуб прыйшоў у Егіпет, і
памёр там сам і айцы нашы. [16]І перанеслі іх у Сіхем, і паклалі ў грабніцу, якую
Абрагам купіў за цану срэбра ў сыноў Эмора ў Сіхеме.

[17]Паводле таго, як набліжаўся час абяцання, якое Бог даў Абрагаму,
разрастаўся і памнажаўся народ у Егіпце, [18]пакуль не *паўстаў новы кароль
Егіпта, які не ведаў Юзафа*. [19]Ён, хітруючы супраць народу нашага, крыўдзіў
айцоў нашых, прымушаючы іх кідаць сваіх немаўлят, каб яны не выжывалі. [20]У
гэты час нарадзіўся Майсей, і ён быў любы Богу. Тры месяцы яго кармілі ў
доме бацькі. [21]А калі яго кінулі, дачка фараона ўзяла яго і выхавала яго сабе, як
сына. [22]І навучылі Майсея ўсёй егіпецкай мудрасці, і быў ён магутны ў словах і
ўчынках. [23]Калі споўнілася яму сорак гадоў, ён вырашыў наведаць сваіх братоў,
сыноў Ізраэля. [24]І ўбачыўшы, як адзін з іх зазнае крыўду, заступіўся, і
адпомсціў за пакрыўджанага, забіўшы егіпцяніна. [25]Ён думаў, што яго браты
зразумеюць, што Бог дае ім вызваленне ягонай рукой, але яны не зразумелі.
[26]На наступны дзень, калі яны біліся між сабой, ён з’явіўся перад імі ды схіляў
іх да міру, кажучы: “Мужы, вы ж браты, нашто крыўдзіце адзін аднаго?” [27]Але
той, што крыўдзіў бліжняга, адштурхнуў яго са словамі: *“Хто паставіў цябе
праваднком і суддзёй над намі? [28]Ці ты хочаш забіць мяне, як учора забіў
егіпцяніна?”* [29]Ад гэтых слоў Майсей уцёк і стаў чужынцам у зямлі Мадыям,
дзе ад яго нарадзіліся два сыны.

[30]Калі прайшло сорак гадоў, *у пустыні ля гары Сінай яму з’явіўся анёл
Пана ў палаючым кусце*. [31]Убачыўшы гэта, Майсей здзівіўся бачанню, а калі
падышоў прыгледзецца, прагучаў голас Пана: [32]*“Я — Бог айцоў тваіх, Бог*

*Абрагама, і Ісаака, і Якуба”*. Майсей затрымцеў і не адважваўся глядзець. [33]*І*
*сказаў яму Пан: “Здымі сандалі з ног тваіх, бо месца, на якім стаіш, — гэта*
*святая зямля.* [34]*Я бачу прыгнёт майго народу ў Егіпце, і стогны яго Я пачуў, і*
*зышоў, каб вызваліць іх. А цяпер падыдзі*, *Я пашлю цябе ў Егіпет”*.
[35]Таго Майсея, якога яны адкінулі, сказаўшы, *“хто паставіў цябе*
*правадыром і суддзёй”*, Бог паслаў як правадыра і вызваліцеля праз руку анёла,
які з’явіўся яму ў кусце. [36]Гэта ён вывеў іх, робячы цуды і знакі ў егіпецкай
зямлі, і на Чырвоным моры, і на пустыні сорак гадоў. [37]Гэта той Майсей, які
сказаў сынам Ізраэля: *“Бог узніме вам Прарока, падобнага да мяне, з ліку*
*вашых братоў”*. [38]Гэта той, хто быў на сходзе ў пустыні з анёлам, які гаварыў з
ім на гары Сінай, гэта ён быў з айцамі нашымі і прыняў жывыя словы, каб
перадаць іх нам. [39]Гэта яго не хацелі слухацца айцы нашыя, але адкінулі яго і
звярнулі сэрцы свае да Егіпта, [40]кажучы Аарону: *“Зрабі нам багоў, якія б ішлі*
*перад намі, бо мы не ведаем, што сталася з тым Майсеем, які вывеў нас з*
*егіпецкай зямлі”*. [41]І зрабілі ў тыя дні цяльца, і прыносілі ахвяры ідалу, і
радаваліся справе сваіх рук. [42]Тады Бог адвярнуўся ад іх і аддаў іх, каб служылі
яны войску нябеснаму, як напісана ў кнізе Прарокаў:
*“Дом Ізраэля, ці прыносілі вы Мне жывёлу забітую і ахвяры*
*на пустыні сорак гадоў?*
[43]*Вы ўзнялі намёт Молаха*
*і зорку бога вашага Рэфана,*
*выявы, якія вы зрабілі,* каб пакланяцца ім.
*Праз гэта Я перасялю вас за* Бабілён”.
[44]У нашых айцоў была ў пустыні скінія сведчання, як пажадаў той, хто
загадаў Майсею зрабіць яе паводле ўзору, які ўбачыў. [45]І нашыя айцы,
атрымаўшы яе, прынеслі яе з Езусам Навінам ва ўладанні язычнікаў, якіх Бог
прагнаў ад аблічча айцоў нашых аж да дзён Давіда, [46]які знайшоў ласку ў вачах
Бога і папрасіў знайсці жыллё для дому Якуба. [47]Саламон жа пабудаваў Яму
дом. [48]Аднак Найвышэйшы не жыве ў тым, што зроблена рукамі, як гаворыць
прарок:
[49]*“Неба — Мой трон,*
*а зямля — падножжа Маіх ног.*
*Які ж дом пабудуеце для Мяне, — кажа Пан, —*
*або якое месца адпачынку Майго?*
[50]*Ці ж не Мая рука стварыла ўсё гэта?”*
[51]Вы з цвёрдым каркам, з неабрэзаным сэрцам і вушамі, вы заўсёды
працівіліся Духу Святому; як айцы вашыя, так і вы. [52]Каго з прарокаў не
праследавалі айцы вашыя? І забілі тых, хто прадказваў прыйсце
Справядлівага, здраднікамі і забойцамі якога цяпер сталіся вы, [53]якія атрымалі
Закон праз пасрэдніцтва анёлаў, але не захоўвалі яго».
[54]Калі яны слухалі гэта, запалалі гневам у сэрцах сваіх і скрыгаталі на яго
зубамі. [55]Стэфан жа, напоўнены Духам Святым, паглядзеў на неба і ўбачыў
славу Божую і Езуса, які стаяў праваруч Бога, [56]і сказаў: «Вось бачу нябёсы
раскрытыя і Сына Чалавечага, які стаіць праваруч Бога». [57]Але яны,
закрычаўшы моцным голасам, заткнулі вушы свае і кінуліся на яго ўсе разам.

58І вывеўшы за горад, пачалі каменаваць. А сведкі паклалі адзежу сваю каля ног
юнака, якога звалі Саўл. 59І каменавалі Стэфана, які маліўся, кажучы: «Пане
Езу, прымі дух мой». 60І, упаўшы на калені, ён усклікнуў моцным голасам:
«Пане, не лічы ім граху гэтага». І, сказаўшы гэта, памёр.

## 8 (1-40)

1А Саўл быў згодны з ягоным забойствам. У той дзень пачаўся вялікі
пераслед Касцёла ў Ерузалеме. Усе, акрамя Апосталаў, разышліся па краінах
Юдэі і Самарыі. 2Пахавалі Стэфана пабожныя людзі і ўчынілі вялікі плач па ім.
3А Саўл нішчыў Касцёл, уваходзіў у дамы, забіраючы мужчын і жанчын і
кідаючы іх у вязніцу.
4Тыя ж, хто рассеяўся, хадзілі, абвяшчаючы слова Евангелля.
5Філіп жа прыйшоў у самарыйскі горад і абвяшчаў там Хрыста. 6А людзі
згодна слухалі, што казаў Філіп, чуючы і бачучы ўчыненыя ім знакі. 7Бо з
многіх апантаных выходзілі з вялікім крыкам нячыстыя духі, і шмат
паралізаваных і кульгавых было аздароўлена. 8І была вялікая радасць у тым
горадзе.
9Быў нейкі чалавек, па імені Сымон, які раней у тым жа горадзе займаўся
чарадзействам і здзіўляў народ Самарыі, выдаючы сябе за кагосьці вялікага.
10Усе, ад малога да вялікага, прыслухоўваліся да яго, кажучы: «Гэты ёсць той
моцай Божай, якая завецца вялікай». 11А слухаліся яго, бо ён доўгі час здзіўляў
іх чарадзействам. 12Калі ж яны паверылі Філіпу, які абвяшчаў Евангелле пра
Валадарства Божае і імя Езуса Хрыста, мужчыны і жанчыны ахрысціліся.
13Паверыў і сам Сымон і, прыняўшы хрост, трымаўся Філіпа; убачыўшы знакі і
цуды, ён моцна дзівіўся.
14Калі ж Апосталы ў Ерузалеме пачулі, што Самарыя прыняла слова Божае,
паслалі да іх Пятра і Яна, 15якія, прыйшоўшы, памаліліся за іх, каб яны прынялі
Духа Святога, 16таму што Ён яшчэ не сыходзіў ні на кога з іх, бо яны былі
толькі ахрышчаныя ў імя Пана Езуса. 17Тады Апосталы ўскладалі на іх рукі, і
яны атрымлівалі Духа Святога.
18Калі ж Сымон убачыў, што праз ускладанне рук Апосталаў удзяляецца
Дух Святы, прынёс ім грошы, 19кажучы: «Дайце і мне такую ўладу, каб кожны,
на каго ўскладу рукі, атрымаў Духа Святога». 20Але Пётр сказаў яму: «Срэбра
тваё няхай будзе з табой на пагібель, бо ты думаў за грошы набыць дар Божы.
21Няма табе ў гэтым ні часткі, ні долі, бо тваё сэрца няшчырае перад Богам.
22Таму адвярніся ад свайго зла і прасі Пана, можа тады даравана будзе табе
задума сэрца твайго. 23Бо я бачу, што ты напоўнены горкай жоўцю і
знаходзішся ў путах несправядлівасці». 24Сымон адказаў: «Маліцеся за мяне да
Пана, каб не напаткала мяне нішто са сказанага вамі». 25Тады яны, даўшы
сведчанне і абвясціўшы слова Пана, пайшлі назад у Ерузалем і абвяшчалі
Евангелле ў многіх самарыйскіх паселішчах.
26Анёл Пана сказаў Філіпу: «Устань і ідзі на поўдзень на дарогу, што вядзе
з Ерузалема ў Газу; яна пустая». 27І, устаўшы, ён пайшоў. І вось, муж эфіопскі,
еўнух, вяльможа Кандакі, каралевы эфіопаў, пастаўлены над усімі яе скарбамі,

які прыязджаў у Ерузалем, каб пакланіцца Богу, [28]вяртаўся і, седзячы на сваёй
павозцы, чытаў прарока Ісаю. [29]Дух сказаў Філіпу: «Падыдзі і далучыся да яго
павозкі». [30]Калі Філіп падбег, пачуў, што той чытае прарока Ісаю, і запытаўся:
«Ці разумееш, што чытаеш?» [31]Той адказаў: «Як жа магу разумець, калі ніхто
не павучыў мяне?» І папрасіў Філіпа падняцца і сесці з ім. [32]А ўрывак з
Пісання, якое ён чытаў, быў такі:
*«Як авечка, якую вядуць на зарэз,*
*як ягня, што маўчыць перад тымі, хто стрыжэ яго,*
*так і ён не адкрыў вуснаў сваіх.*
[33]*У пакоры сваёй быў асуджаны;*
*і хто раскажа пра ягоны род?*
*Бо забіраюць з зямлі жыццё ягонае».*
[34]Еўнух спытаўся ў Філіпа: «Прашу цябе, скажы, пра каго гэта кажа
прарок? Ці пра сябе, ці пра каго іншага?» [35]Тады Філіп раскрыў вусны свае і,
пачынаючы з гэтага месца Пісання, абвяшчаў яму Евангелле пра Езуса. [36]Калі
яны ехалі па дарозе, наблізіліся да нейкай вады. І еўнух сказаў: «Вось вада.
Што перашкаджае мне ахрысціцца?» (37) [38]І загадаў спыніць павозку. І сышлі
абодва, Філіп з еўнухам, у ваду. І Філіп ахрысціў яго. [39]Калі яны выйшлі з вады,
Дух Пана падхапіў Філіпа. І еўнух ужо больш не бачыў яго. І працягваў шлях
свой, радуючыся. [40]А Філіп прыбыў у Азот і, ідучы, абвяшчаў Евангелле ва ўсіх
гарадах, пакуль не прыйшоў у Цэзарэю.

## 9 (1-43)

[1]Саўл усё яшчэ жыў пагрозамі і забойствамі вучняў Пана. Ён прыйшоў да
першасвятара [2]і папрасіў у яго лісты да сінагогаў у Дамаску, каб, калі знойдзе
якіх-небудзь прыхільнікаў гэтага шляху, мужчын ці жанчын, мог звязаць іх і
прывесці ў Ерузалем. [3]Калі ён падчас падарожжа набліжаўся да Дамаска,
раптам святло з неба асвятліла яго. [4]Ён упаў на зямлю і пачуў голас, які казаў
яму: «Саўл, Саўл, чаму ты пераследуеш Мяне?» [5]Ён жа сказаў: «Хто Ты,
Пане?» А той адказаў: «Я Езус, якога ты пераследуеш. [6]Устань і ідзі ў горад,
там скажуць табе, што ты павінен зрабіць». [7]Людзі, якія ішлі разам з ім,
анямелі, бо чулі голас, але нікога не бачылі. [8]Саўл падняўся з зямлі і, хоць вочы
былі адкрытыя, нікога не бачыў. Узяўшы за руку, павялі яго ў Дамаск. [9]Тры дні
ён не бачыў і не еў, і не піў.
[10]У Дамаску быў адзін вучань па імені Ананія. Пан аб’явіўся яму і сказаў:
«Ананія». А ён адказаў: «Гэта я, Пане». [11]Пан сказаў яму: «Устань і ідзі на
вуліцу, якая завецца Простай, і спытайся ў доме Юды пра Саўла з Тарса, бо ён
цяпер моліцца». [12]І ўбачыў Саўл у аб’яўленні чалавека па імені Ананія, які
ўвайшоў і ўсклаў на яго рукі, каб ён зноў мог бачыць. [13]Адказаў Ананія: «Пане,
шмат ад каго я чуў пра гэтага чалавека, колькі ён учыніў зла Тваім святым у
Ерузалеме. [14]І тут ён мае ад першасвятароў уладу зняволіць усіх, хто заклікае
імя Тваё». [15]Але Пан сказаў яму: «Ідзі, бо гэты чалавек — маё выбранае
начынне. Ён занясе імя Маё народам, каралям і сынам Ізраэля. [16]Я пакажу яму,
колькі ён павінен выцерпець дзеля Майго імя». [17]Тады пайшоў Ананія і

ўвайшоў у дом. І, усклаўшы на яго рукі, сказаў: «Браце Саўле, Пан Езус, які
з’явіўся табе на дарозе, якою ты ішоў, паслаў мяне, каб ты зноў мог бачыць і
напоўніўся Духам Святым». 18 І адразу нібы луска спала з вачэй ягоных, і стаў
бачыць, падняўся і быў ахрышчаны. 19 А калі спажыў ежу, набраўся сілы.
Некалькі дзён Саул быў з вучнямі ў Дамаску. 20 І адразу пачаў абвяшчаць у
сінагогах пра Езуса, што Ён Сын Божы. 21 І ўсе, хто чуў, здзіўляліся і казалі: «Ці
не той гэта, які пераследаваў у Ерузалеме вызнаўцаў імені гэтага? І сюды
прыйшоў ён для таго, каб зняволіць іх і прывесці да першасвятароў». 22 Але
Саўл умацоўваўся яшчэ больш і прыводзіў у замяшанне юдэяў, якія жылі ў
Дамаску, даказваючы, што Езус ёсць Месіяй. 23 Калі прайшло багата дзён, юдэі
вырашылі забіць яго. 24 Але Саўл даведаўся пра іх намер. А яны ўдзень і ўначы
пільнавалі ў брамах, каб забіць яго. 25 Тады вучні ўзялі яго ўначы і спусцілі ў
кашы праз мур.
26 Калі ж ён прыйшоў у Ерузалем, спрабаваў далучыцца да вучняў, але ўсе
баяліся яго і не верылі, што ён вучань. 27 Тады Барнаба ўзяў яго і прывёў да
Апосталаў і расказаў ім, як у дарозе ён убачыў Пана, і што Пан сказаў яму, і як
у Дамаску адважна прапаведаваў у імя Езуса. 28 Як разам з імі ён выходзіў і
ўваходзіў у Ерузалем, і адважна прапаведаваў у імя Пана. 29 Размаўляў таксама і
спрачаўся з элiністамі, якія хацелі забіць яго. 30 Даведаўшыся пра гэта, браты
адвялі яго ў Цэзарэю і паслалі ў Тарс.
31 А Касцёл па ўсёй Юдэі, Галілеі і Самарыі меў спакой, развіваўся і жыў у
боязі перад Панам, і напаўняўся суцяшэннем Духа Святога.
32 Калі Пётр абыходзіў усіх, прыйшоў таксама да святых, якія жылі ў
Ліддзе. 33 Там ён знайшоў аднаго чалавека па імені Энэй, які ўжо восем гадоў
ляжаў у ложку паралізаваны. Пётр сказаў яму: 34 «Энэй, Езус Хрыстус
аздараўляе цябе, устань і засцялі свой ложак». І той адразу ўстаў. 35 І бачылі яго
ўсе, хто жыў у Ліддзе і Сароне, і навярнуліся да Пана.
36 У Яфе была адна вучаніца па імені Табіта, што азначае «сарна». Яна
рабіла шмат добрых учынкаў і раздавала міласціну. 37 У тыя дні яна захварэла і
памерла. Яе абмылі і паклалі ў святліцы. 38 Лідда была недалёка ад Яфы, і калі
вучні даведаліся, што Пётр там, паслалі да яго двух мужоў з просьбаю:
«Прыйдзі неадкладна да нас!» 39 Пётр устаў і пайшоў з імі. А калі ён прыбыў,
увялі яго ў святліцу. Усе ўдовы абступілі яго з плачам і паказвалі яму тунікі і
вопраткі, якія рабіла Сарна, жывучы з імі. 40 Пётр, адправіўшы ўсіх са святліцы,
стаў на калені і памаліўся. Затым павярнуўся да цела і сказаў: «Табіта, устань!»
Яна адкрыла свае вочы і, убачыўшы Пятра, села. 41 Ён падаў ёй руку і падняў яе.
Тады паклікаў святых і ўдоваў, і яны ўбачылі яе жывую.
42 Пра гэта стала вядома ва ўсёй Яфе, і многія паверылі ў Пана. 43 Пётр жа
даволі доўга заставаўся ў Яфе ў нейкага Сымона, гарбара.

## 10 (1-48)

1 Быў у Цэзарэі адзін чалавек па імені Карнэлій, сотнік, з кагорты, што
называлася Італьскай, 2 пабожны і багабойны з усім домам сваім. Ён даваў
вялікую міласціну і заўсёды маліўся Богу. 3 Каля дзявятай гадзіны дня ён

выразна бачыў у візіі анёла Божага, які прыйшоў да яго і сказаў: «Карнэлій».
[4]Ён паглядзеў на яго і, спалохаўшыся, сказаў: «Што, Пане?» Той адказаў: «Твае
малітвы і твая міласціна былі згаданыя перад Богам. [5]А цяпер пашлі людзей ў
Яфу і пакліч Сымона, які завецца Пятром. [6]Ён гасціць у аднаго гарбара Сымона,
які мае дом каля мора. Ён скажа табе, што рабіць». [7]Калі анёл, які гаварыў з ім,
адышоў, ён паклікаў дваіх сваіх слуг і багабойнага жаўнера, якія прыслугоўвалі
яму, [8]і, расказаўшы ім усё, паслаў іх у Яфу.

[9]На другі дзень, калі яны ішлі і набліжаліся да горада, Пётр каля шостай
гадзіны падняўся на дах дома памаліцца. [10]Аднак адчуў голад і захацеў
пад’есці. Пакуль гатавалі яму, ён меў візію. [11]Убачыў неба раскрытае і нейкае
начынне, быццам вялікае палатно, прывязанае за чатыры куты, што спускалася
на зямлю. [12]У ім былі ўсякія чацвераногія жывёлы, і паўзуны, і нябесныя
птушкі. [13]І прамовіў голас да яго: «Уставай, Пётр, забівай і еш!» [14]Але Пётр
сказаў: «Ні ў якім разе, Пане, бо я ніколі не еў нічога апаганенага і нячыстага».
[15]Ізноў другі раз голас сказаў яму: «Тое, што Бог ачысціў, не называй
апаганеным». [16]Так было тройчы, і начынне адразу паднялося ў неба. [17]Калі ж
Пётр разважаў, што магла б азначаць гэтая візія, якую бачыў, вось мужы,
пасланыя Карнэліем, распытаўшыся пра дом Сымона, спыніліся ля варот [18]і
спыталіся, крыкнуўшы, ці тут гасціць Сымон, які завецца Пятром. [19]Калі Пётр
разважаў пра бачанне, Дух сказаў яму: «Вось, тры чалавекі шукаюць цябе.
[20]Устань, спусціся і ідзі з імі без ніякіх ваганняў, бо Я паслаў іх». [21]Пётр,
спусціўшыся да гэтых людзей, сказаў: «Я той, каго вы шукаеце. Дзеля чаго вы
прыйшлі?» [22]Яны ж сказалі: «Карнэлій, сотнік, муж праведны і багабойны, за
якога засведчыць увесь юдэйскі народ, атрымаў наказ праз святога анёла, каб
паклікаць цябе ў свой дом і паслухаць тваіх слоў». [23]Тады ён паклікаў іх і
пачаставаў.

Назаўтра ўстаў і адправіўся з імі. Некаторыя браты з Яфы пайшлі разам з
ім. [24]На наступны дзень ён прыбыў у Цэзарэю. Карнэлій жа чакаў іх,
паклікаўшы сваіх родных і блізкіх сяброў. [25]Калі Пётр уваходзіў, Карнэлій
выйшаў яму насустрач і, упаўшы да ног, пакланіўся яму. [26]Пётр падняў яго,
кажучы: «Устань, я таксама чалавек». [27]І, размаўляючы з ім, увайшоў і ўбачыў
шмат сабраных. [28]Ён сказаў ім: «Ведаеце, што юдэю нельга мець зносіны або
сустракацца з чужынцам. Але Бог адкрыў мне, каб я не лічыў ніводнага
чалавека апаганеным ці нячыстым. [29]Таму я без ваганняў прыйшоў на заклік.
Дык пытаюся: для якой справы вы паклікалі мяне?» [30]І Карнэлій адказаў:
«Чатыры дні аж да гэтай гадзіны я пасціў, і а дзявятай маліўся ў сваім доме. І
вось, перада мной з’явіўся муж у бліскучым адзенні [31]і сказаў: “Карнэлій, твая
малітва пачута і твае міласціны былі згаданыя перад Богам. [32]Таму пашлі ў Яфу
і пакліч Сымона, які завецца Пятром. Ён гасціць у доме гарбара Сымона каля
мора”. [33]Я адразу паслаў да цябе, а ты добра зрабіў, што прыйшоў. Цяпер мы
ўсе стаім перад Богам, каб пачуць усё, што загадаў табе Пан».

[34]Пётр, адкрыўшы вусны свае, сказаў: «Сапраўды разумею, што Бог не
зважае на асобу, [35]але ў кожным народзе даспадобы Яму той, хто баіцца Яго і
паступае справядліва. [36]Ён паслаў свае слова сынам Ізраэля, абвяшчаючы
Добрую Навіну аб спакоі праз Езуса Хрыста, які ёсць Панам усіх. [37]Вы ведаеце,

што адбывалася па ўсёй Юдэі, пачынаючы ад Галілеі, пасля хросту,
абвешчанага Янам. [38]Як Бог намасціў Духам Святым і моцай Езуса з Назарэта,
які хадзіў, робячы дабро і аздараўляючы ўсіх, апанаваных д’яблам, бо з Ім быў
Бог. [39]І мы — сведкі ўсяго, што Ён зрабіў у краіне юдэйскай і ў Ерузалеме. Яго
забілі, павесіўшы на дрэве. [40]А Бог уваскрасіў Яго на трэці дзень і дазволіў Яму
з’явіцца [41]не ўсяму народу, але нам, сведкам, выбраным раней Богам, якія елі і
пілі разам з Ім пасля ўваскрасення Ягонага. [42]Наказаў нам таксама абвяшчаць
народу і сведчыць, што Ён прызначаны Богам суддзя жывых і памерлых. [43]Пра
Яго ўсе пракрокі сведчаць, што кожны, хто верыць у Яго, атрымае адпушчэнне
грахоў праз імя Ягонае».

[44]Калі Пётр казаў яшчэ гэтыя словы, Дух Святы сышоў на ўсіх, хто слухаў
слова. [45]І вернікі з абрэзаных, якія прыйшлі разам з Пятром, здзівіліся, што дар
Духа Святога выліўся і на язычнікаў. [46]Бо чулі, як тыя размаўлялі мовамі і
славілі Бога. Тады сказаў Пётр: [47]«Ці можа хто забараніць хрысціцца вадою
тым, хто атрымаў Духа Святога, як і мы?» [48]І загадаў ахрысціць іх у імя Езуса
Хрыста. Потым яны прасілі яго застацца на некалькі дзён.

## 11 (1-30)

[1]Апосталы і браты, якія былі ў Юдэі, даведаліся, што і язычнікі прынялі
слова Божае. [2]Калі Пётр увайшоў у Ерузалем, абрэзаныя дакаралі яго, кажучы:
[3]«Да неабрэзаных ты хадзіў і еў з імі!»

[4]Пётр пачаў ім тлумачыць па парадку, кажучы: [5]«Я быў у горадзе Яфе і
маліўся. І ў візіі ўбачыў аб’яўленне: нейкае начынне, нібы вялікае палатно,
чатырма канцамі спускалася з неба. І наблізілася аж да мяне. [6]Я ўважліва
прыгледзеўся да яго і ўбачыў чацвераногіх зямных звяроў, паўзуноў і птушак
нябесных. [7]І пачуў голас, які казаў мне: “Уставай, Пётр, забівай ды еш!” [8]Але я
сказаў: “Ні ў якім разе, Пане, бо ніколі нішто апаганенае ці нячыстае не
ўваходзіла ў вусны мае!” [9]Голас з неба другі раз адказаў мне: [10]“Што Бог
ачысціў, таго не называй нячыстым”. Гэта было тройчы, і зноў усё было
забрана ў неба. [11]І вось, у тую самую хвіліну тры чалавекі, пасланыя да мяне з
Цэзарэі, з’явіліся каля дому, у якім мы былі. [12]Дух сказаў мне ісці разам з імі
без ваганняў. Пайшлі са мною і гэтыя шэсць братоў. І ўвайшлі мы ў дом таго
чалавека. [13]Ён нам расказаў, што ўбачыў у сваім доме анёла, які сказаў яму:
“Пашлі ў Яфу і пакліч Сымона, якога завуць Пётр. [14]Ён абвесціць табе словы,
якімі збавішся ты і ўвесь твой дом”. [15]А калі я пачаў прамаўляць, сышоў на іх
Дух Святы, як і на нас спачатку. [16]Тады я ўспомніў слова Пана, як Ён казаў: “Ян
хрысціў вадою, а вы будзеце ахрышчаныя Духам Святым”. [17]Калі Бог даў ім
такі самы дар, як і нам, якія паверылі ў Пана Езуса Хрыста, то хто я такі, каб
пярэчыць Богу?»

[18]Калі пачулі гэта, супакоіліся і праславілі Бога, кажучы: «Вось жа і
язычнікам даў Бог пакаянне дзеля жыцця».

[19]Тыя, хто рассеяўся з-за ганенняў, што сталіся пасля Стэфана, дайшлі аж
да Фінікіі, Кіпра і Антыёхіі, і нікому, апроч юдэяў, не абвяшчалі слова.
[20]Некаторыя з іх былі з Кіпра і Кірынэі. Яны прыйшлі ў Антыёхію і прамаўлялі

таксама да грэкаў, абвяшчаючы Евангелле пра Пана Езуса. [21]І рука Пана была з
імі, і вялікае мноства паверыла і навярнулася да Пана.
[22]Вестка пра іх дайшла да Касцёла ў Ерузалеме. І паслалі Барнабу ў
Антыёхію. [23]Калі ён прыйшоў і ўбачыў дзеянне ласкі Божай, узрадаваўся і
заахвочваў усіх, каб шчырым сэрцам трывалі ў Пану. [24]Ён быў муж добры,
поўны Духа Святога і веры. І шмат людзей прыхілілася да Пана. [25]Потым
Барнаба пайшоў у Тарс шукаць Саўла і, [26]калі знайшоў яго, прывёў у Антыёхію.
Увесь год яны працавалі разам у Касцёле і навучалі вялікую колькасць людзей.
У Антыёхіі ўпершыню вучні былі названыя хрысціянамі.
[27]У тыя дні прарокі прыбылі з Ерузалема ў Антыёхію. [28]Адзін з іх, па імені
Агаў, устаў і, натхнёны Духам, прадказаў, што па ўсім свеце пачнецца вялікі
голад. Ён і настаў пры імператары Клаўдыі. [29]Тады вучні вырашылі, што кожны
паводле сваіх магчымасцяў пашле дапамогу братам, якія жылі ў Юдэі. [30]І
зрабілі гэта, паслаўшы сабранае старэйшым праз Барнабу і Саўла.

## 12 (1-25)

[1]У той час кароль Ірад пачаў пераследаваць некаторых з Касцёла. [2]Забіў
Якуба, брата Яна, мячом. [3]А калі ўбачыў, што гэта спадабалася юдэям, схапіў
таксама і Пятра. А былі дні Праснакоў. [4]І затрымаўшы яго, пасадзіў у вязніцу і
загадаў чатыром чацвёркам жаўнераў вартаваць яго, маючы намер пасля Пасхі
выдаць яго народу. [5]Так Пятра вартавалі ў вязніцы, а Касцёл рупліва маліўся за
яго да Бога. [6]У тую ноч, калі Ірад хацеў выдаць яго, ён спаў паміж двума
жаўнерамі, скаваны падвойнымі ланцугамі, і ахоўнікі каля брамы вартавалі
вязніцу. [7]І вось анёл Пана з’явіўся перад ім, і святло заззяла ў цямніцы.
Штурхнуўшы Пятра ў бок, разбудзіў яго і сказаў: «Уставай хутчэй!» І ланцугі
апалі з рук ягоных. [8]Сказаў яму анёл: «Падпяражыся і завяжы свае сандалі!» І
зрабіў так. Пасля сказаў яму: «Адзень плашч свой і ідзі за мною!» [9]Калі
выйшаў, пайшоў следам за ім, не ведаючы, ці праўдзівае тое, што робіць анёл.
Думаў жа, што гэта з’ява.
[10]Мінуўшы першую і другую варту, яны падышлі да жалезнай брамы, што
вяла ў горад, якая сама адчынілася перад імі. Выйшаўшы, яны прайшлі адну
вуліцу, і раптам анёл пакінуў яго. [11]Тады Пётр, апрытомнеўшы, сказаў: «Цяпер
сапраўды ведаю, што Пан паслаў анёла свайго і ўратаваў мяне ад рукі Ірада і ад
усяго, што задумаў народ юдэйскі». [12]Зразумеўшы гэта, ён прыйшоў да дома
Марыі, маці Яна, якога звалі Маркам, дзе многія сабраліся на малітве. [13]Калі
Пётр пастукаў у дзверы брамы, выйшла спытацца служанка па імені Рода.
[14]Пазнаўшы голас Пятра, яна ад радасці не адчыніла браму, а пабегла сказаць,
што Пётр стаіць ля брамы. [15]Яны ж сказалі ёй: «Ты звар’яцела!» Але яна
настойвала, што так ёсць. Яны ж казалі: «Гэта яго анёл». [16]Тым часам Пётр
стукаў далей. А калі адчынілі, убачылі яго і здзівіліся. [17]Ён жа, даўшы знак
рукою, каб маўчалі, расказаў, як Пан вывеў яго з вязніцы. Потым сказаў:
«Паведаміце пра гэта Якубу і братам». Затым выйшаў і адправіўся ў іншае
месца.

[18]Калі настаў дзень, сярод жаўнераў пачалося немалое хваляванне ад таго,
што здарылася з Пятром. [19]Ірад жа, пашукаўшы яго і не знайшоўшы, аддаў
вартаўнікоў пад суд і загадаў зняволіць, а сам накіраваўся з Юдэі ў Цэзарэю і
спыніўся там.
[20]Ірад быў раззлаваны на жыхароў Тыра і Сідона. Тады яны з агульнай
згоды прыйшлі да яго. Дабіўшыся прыхільнасці Бласта, каралеўскага ўрадніка,
прасілі міру, таму што іх краіна кармілася ад каралеўскай. [21]У вызначаны дзень
Ірад, апрануўшыся ў каралеўскія шаты, сеў на ўзвышэнні і прамаўляў да іх. [22]А
народ усклікаў: «Гэта голас Бога, а не чалавека!» [23]Але раптам анёл Пана
ўдарыў яго, бо ён не аддаў хвалы Богу. І, з’едзены чарвякамі, ён аддаў духа.
[24]Слова ж Божае расло і пашыралася. [25]Барнаба і Саўл, выканаўшы сваё
служэнне ў Ерузалеме, вярнуліся і ўзялі з сабою Яна, якога звалі таксама
Маркам.

## 13 (1-52)

[1]У Касцёле Антыёхіі прарокамі і настаўнікамі былі: Барнаба і Сымон,
якога звалі таксама Нігер, і Люцый Кірынэец, і Манаэн, які выхоўваўся разам з
тэтрархам Ірадам, і Саўл. [2]Калі яны служылі Пану і пасцілі, Дух Святы сказаў:
«Вылучыце мне Барнабу і Саўла на справу, да якой Я іх паклікаў». [3]Тады, пасля
посту і малітвы, яны ўсклалі на іх рукі і адпусцілі іх.
[4]А яны, пасланыя Духам Святым, прыбылі ў Сэлеўкію. Адтуль паплылі на
Кіпр. [5]І калі былі ў Саламіне, абвяшчалі Божае слова ў сінагогах юдэйскіх. Мелі
таксама Яна памочнікам. [6]Прайшоўшы ўвесь востраў аж да Пафаса, яны
знайшлі нейкага чалавека, чарадзея, ілжэпрарока, юдэя, якога звалі Бар-Езус.
[7]Ён быў разам з праконсулам Сергіем Паўлам, чалавекам разумным. Ён,
паклікаўшы Барнабу і Саўла, пажадаў пачуць слова Божае. [8]Але выступіў
супраць іх Ялім, гэта значыць «чарадзей», бо так перакладаецца яго імя, і
намагаўся адвярнуць праконсула ад веры. [9]Аднак Саўл, ён жа Павел,
напоўнены Духам Святым, паглядзеў на яго [10]і сказаў: «Сын д’ябла, поўны
ўсякага подступу і зладзейства, вораг усякай праўды, ці перастанеш ты зводзіць
з простых шляхоў Пана? [11]І вось цяпер рука Пана на табе: будзеш невідушчы і
не ўбачыш сонца нейкі час». І адразу ахапіў яго змрок і цемра, і ён пачаў
хадзіць наўкола, шукаючы павадыра. [12]Калі ж праконсул убачыў, што
адбылося, паверыў, здзіўлены вучэннем Пана.
[13]Калі Павел і тыя, хто быў з ім, адплылі з Пафаса, прыбылі ў Пэргэ, што ў
Памфіліі. Але Ян пакінуў іх і вярнуўся ў Ерузалем. [14]Яны ж прайшлі Пэргэ і
прыбылі ў Антыёхію Пісідыйскую, і ў шабат увайшлі ў сінагогу, і селі. [15]Пасля
чытання Закону і Прарокаў кіраўнікі сінагогі паслалі да іх, кажучы: «Браты,
калі маеце нейкае слова заахвочвання для народу, скажыце!»
[16]Тады Павел устаў, даў знак рукою і сказаў: «Мужы ізраэльскія і тыя, хто
баіцца Бога, слухайце. [17]Бог гэтага ізраэльскага народу выбраў айцоў нашых і
ўзвысіў народ падчас знаходжання ў зямлі егіпецкай, і ўзнятаю рукою вывеў іх
з яе. [18]Каля сарака гадоў цярпеў іх звычаі на пустыні. [19]І знішчыўшы сем
народаў у зямлі канаанскай, даў ім у спадчыну зямлю іхнюю [20]пасля

чатырохсот пяцідзесяці гадоў. Потым даў ім суддзяў аж да прарока Самуэля.
[21]Затым яны папрасілі караля, і Бог даў ім Саўла, сына Кіша, мужа з пакалення
Бен'яміна, на сорак гадоў. [22]Адкінуўшы яго, прызначыў Давіда каралём іхнім,
пра якога і сказаў, засведчыўшы: *"Я знайшоў Давіда*, сына Есэя, *чалавека па
сэрцы Маім*, які выканае ўсе жаданні Мае".

[23]З ягонага патомства, паводле абяцання, Бог вывеў для Ізраэля Збаўцу
Езуса. [24]Перад Ягоным прыйсцем Ян прапаведаваў хрост пакаяння ўсяму
ізраэльскаму народу. [25]Пад канец сваёй дзейнасці Ян сказаў: "Я не з'яўляюся
тым, кім вы лічыце мяне; але вось за мною ідзе той, каму я не варты развязаць
сандалі на нагах".

[26]Браты, сыны роду Абрагама і тыя з вас, хто баіцца Бога. Нам паслана
слова збаўлення гэтага, [27]бо жыхары Ерузалема і іх кіраўнікі не пазналі Езуса і,
калі асудзілі Яго, споўнілі словы прарокаў, што чыталіся кожны шабат. [28]І хоць
не знайшлі ніякай прычыны для смерці, прасілі Пілата забіць Яго. [29]А калі
выканалі ўсё напісанае пра Яго, знялі Яго з крыжа і паклалі ў магілу. [30]Але Бог
уваскрасіў Яго. [31]Шмат дзён з'яўляўся Ён тым, хто разам з Ім прыйшоў з
Галілеі ў Ерузалем, якія цяпер сведчаць пра Яго перад народам.

[32]І мы абвяшчаем вам Евангелле, што абяцанне, дадзенае айцам нашым,
[33]Бог выканаў для нас, дзяцей іхніх, калі ўваскрасіў Езуса, як і напісана ў другім
псальме:

*"Ты Сын Мой, Я Цябе сёння нарадзіў".*

[34]А пра тое, што ўваскрасіў Яго, каб Ён больш не вярнуўся да тлення, так
сказаў:

*"Я верна выканаю абяцанні, дадзеныя Давіду".*

[35]Таму ў іншым месцы кажа:

*"Ты не дасі свайму святому ўбачыць тлення".*

[36]Давід, які ў свой час паслужыў Божай волі, спачыў і, далучыўся да сваіх
айцоў, убачыў тленне. [37]А той, каго ўваскрасіў Бог, не ўбачыў тлення. [38]Таму,
браты, няхай вам будзе вядома, што праз Яго абвяшчаецца вам адпушчэнне
грахоў, і ва ўсім, у чым вы не апраўдаліся ў Законе Майсея, [39]кожны веруючы
апраўдаецца праз Яго. [40]Сцеражыцеся, каб з вамі не здарылася тое, што сказана
ў Прароках:

[41]*"Глядзіце, насмешнікі,*
*здзіўляйцеся і згіньце,*
*бо Я раблю справу ў дні вашыя,*
*справу, у якую вы не паверыце, калі б хто і распавёў вам!"*».

[42]Калі ж яны выходзілі, прасілі іх расказаць у наступны шабат пра гэтыя
рэчы. [43]Калі сабраныя разышліся, многія юдэі і пабожныя празеліты пайшлі
следам за Паўлам і Барнабам, якія ў размове пераконвалі іх заставацца ў ласцы
Божай.

[44]У наступны шабат сабраўся амаль увесь горад слухаць слова Пана. [45]Калі
юдэі ўбачылі такі натоўп, напоўніліся зайздрасцю і пярэчылі таму, што казаў
Павел, і блюзнерылі. [46]Тады Павел і Барнаба з адвагаю сказалі: «Вам першым
трэба было абвяшчаць слова Божае. Але паколькі вы адкідваеце яго і лічыце

саміх сябе нявартымі вечнага жыцця, таму мы звяртаемся да язычнікаў. [47]Бо так
нам загадаў Пан:
*“Я зрабіў цябе святлом народаў,*
*каб ты быў збаўленнем аж да межаў зямлі”*».
[48]Калі пачулі гэта язычнікі, узрадаваліся і славілі слова Пана, і ўсе,
пакліканыя да жыцця вечнага, паверылі. [49]А слова Пана пашыралася па ўсёй
краіне. [50]Юдэі ж падбухторылі пабожных і дастойных жанчын, уплывовых у
горадзе людзей і пачалі пераследаваць Паўла і Барнабу, і выгналі іх са сваіх
межаў. [51]Яны ж абтрэслі пыл з ног і пайшлі ў Іконію. [52]А вучні напаўняліся
радасцю і Духам Святым.

## 14 (1-28)

[1]У Іконіі сталася падобнае. Яны разам увайшлі ў юдэйскую сінагогу і
прамаўлялі так, што паверыла вялікае мноства юдэяў і грэкаў. [2]Юдэі, якія не
паверылі, падбухторылі і варожа настроілі язычнікаў супраць братоў.
[3]Нягледзячы на гэта яны прабылі там доўгі час, мужна прамаўляючы пра Пана,
які даваў сведчанне слову сваёй ласкі і здзяйсняючы іх рукамі знакі і цуды. [4]Так
народ у горадзе падзяліўся: адны былі з юдэямі, а другія — з Апосталамі. [5]Калі
язычнікі і юдэі разам са сваімі кіраўнікамі сабраліся іх зняважыць і
ўкаменаваць, [6]яны ўцяклі ў лікаонскія гарады Лістру і Дэрбэ ды ў іхнія
ваколіцы [7]і там абвяшчалі Евангелле.
[8]У Лістры сядзеў адзін чалавек, хворы на ногі, кульгавы ад нараджэння
свайго, які ніколі не хадзіў. [9]Ён слухаў, як прамаўляў Павел. А калі той
паглядзеў на яго і ўбачыў, што ён мае веру для аздараўлення, [10]сказаў гучным
голасам: «Стань на свае ногі і выпрастайся!» І ён ускочыў, і пачаў хадзіць.
[11]Калі натоўп убачыў, што ўчыніў Павел, узняў голас свой, кажучы па-
лікаонску: «Богі ў людскім падабенстве сышлі да нас!» [12]Барнабу называлі
Зеўсам, а Паўла — Гермесам, бо ён быў галоўным прамоўцам.
[13]А жрэц Зеўса, ідал якога знаходзіўся перад горадам, разам з натоўпам
прывёў да брамы быкоў і прынёс вянкі, і хацеў прынесці ахвяру. [14]Калі пачулі
пра гэта апосталы Барнаба і Павел, яны разадралі свае адзенне, кінуліся ў
натоўп і крычалі, кажучы: [15]«Людзі, навошта гэта робіце? Мы такія самыя
людзі, як вы. Абвяшчаем Евангелле, каб вы ад гэтых марнасцяў навярнуліся да
Бога жывога, *які стварыў неба і зямлю, і мора, і ўсё, што ў іх ёсць*. [16]Які ў
мінулых пакаленнях дазволіў усім народам хадзіць сваімі дарогамі. [17]Аднак не
пераставаў сведчыць пра сябе, чынячы дабро, даючы вам дождж з неба і
ўраджайныя поры, даючы ежу і напаўняючы вяселлем сэрцы вашыя». [18]І, так
кажучы, ледзь стрымалі людзей, каб не прыносілі ім ахвяры. [19]Прыйшлі ў
Лістру юдэі з Антыёхіі і Іконіі і, падбухторыўшы народ, укаменавалі Паўла і
выцягнулі яго за горад, думаючы, што ён памёр. [20]Але, калі абступілі яго вучні,
ён устаў і ўвайшоў у горад, і на другі дзень пайшоў з Барнабам у Дэрбэ.
[21]У тым горадзе яны абвяшчалі Евангелле і прыдбалі шмат вучняў. Пасля
вярнуліся ў Лістру, Іконію ды Антыёхію, [22]умацоўваючы душы вучняў і
заахвочваючы іх трываць у веры, бо нам трэба прайсці праз многія цярпенні,

каб увайсці ў Божае Валадарства. [23]Праз ускладанне рук устанавілі ім у кожным
Касцёле прэзбітэраў, у малітве і посце даручылі іх Пану, у якога паверылі.
[24]Прайшоўшы праз Пісідыю, прыбылі ў Памфілію. [25]І, абвясціўшы слова ў
Пэргэ, сышлі ў Аталію. [26]Адтуль адплылі ў Антыёхію, дзе праз ласку Божую
былі прызначаныя на справу, якую выканалі.

[27]Калі прыйшлі туды і сабралі Касцёл, расказалі, што Бог учыніў з імі і як
Ён адчыніў брамы веры язычнікам. [28]І доўгі час заставаліся яны разам з
вучнямі.

## 15 (1-41)

[1]Некаторыя з тых, хто прыйшоў з Юдэі, вучылі братоў: «Калі не будзеце
абрэзаныя паводле звычаю Майсея, не зможаце быць збаўленымі».

[2]Калі распачалася звада і немалая спрэчка Паўла і Барнабы з імі, было
вырашана, што Павел і Барнаба, і некаторыя іншыя з іх пойдуць у гэтай справе
да Апосталаў і старэйшых у Ерузалем. [3]Яны ж, пасланыя Касцёлам, праходзілі
праз Фінікію і Самарыю, расказваючы пра навяртанне язычнікаў. І вельмі
ўзрадавалі ўсіх братоў. [4]Калі прыйшлі ў Ерузалем, былі прынятыя Касцёлам,
Апосталамі і старэйшымі. Распавялі яны, што Бог учыніў з імі. [5]Тады ўсталі
некаторыя з кола фарысеяў, якія паверылі, і казалі: «Трэба абразаць іх і
загадаць ім, каб яны захоўвалі Закон Майсея!»

[6]І сабраліся Апосталы і старэйшыя, каб вырашыць гэтую справу. [7]Калі
паўстала вялікая спрэчка, Пётр устаў і сказаў ім: «Браты, вы ведаеце, што з
даўніх дзён Бог выбраў мяне сярод вас, каб язычнікі з маіх вуснаў пачулі слова
Евангелля і паверылі. [8]І Бог, які ведае сэрцы, засведчыў перад імі, даўшы ім, як
і нам, Духа Святога. [9]І не зрабіў ніякай розніцы паміж намі ды імі і праз веру
ачысціў іхнія сэрцы. [10]Навошта ж цяпер выпрабоўваеце Бога, ускладаючы
вучням на шыю ярмо, якое не маглі несці ні айцы нашыя, ні мы? [11]Але мы
верым, што ласкаю Пана Езуса мы будзем збаўленыя таксама, як і яны».

[12]Замоўклі ўсе сабраныя і слухалі апавяданне Барнабы і Паўла пра тое, як
шмат знакаў і цудаў учыніў Бог праз іх сярод язычнікаў. [13]Калі яны скончылі,
загаварыў Якуб, кажучы: «Браты, паслухайце мяне. [14]Сымон расказаў, як Бог
спачатку паглядзеў на язычнікаў, каб выбраць з іх народ для свайго імя. [15]І з
гэтым згаджаюцца словы прарокаў, як напісана:

[16]*“Потым вярнуся*
*і адбудую заняпалы шацёр Давіда,*
*і адбудую руіны яго і пастаўлю нанова,*
[17]*каб астатнія людзі шукалі Пана,*
*і ўсе народы, над якімі заклікаюць імя Маё, —*
*кажа Пан, які чыніць гэтыя справы,* [18]вядомыя спрадвеку”.

[19]Таму я лічу, што не трэба абцяжарваць тых язычнікаў, якія навяртаюцца
да Бога, [20]але трэба напісаць ім, каб яны ўстрымліваліся ад апаганьвання
ідаламі, ад распусты, ад таго, што задушана, і ад крыві. [21]Бо з даўніх часоў ёсць
у кожным горадзе тыя, хто кожны шабат абвяшчае і чытае Закон Майсея ў
сінагогах».

22 Тады Апосталы і старэйшыя разам з усім Касцёлам, выбраўшы сярод
сябе Юду, званага Барсабам, і Сілу — мужоў, якія былі першымі сярод братоў,
вырашылі паслаць іх у Антыёхію з Паўлам і Барнабам. 23 І праз іх выслалі такі
ліст: «Апосталы і старэйшыя браты вітаюць братоў з язычнікаў у Антыёхіі,
Сірыі і Цыліцыі! 24 Мы пачулі, што некаторыя з нас адправіліся без нашага
даручэння і ўстрывожылі вас словамі, занепакоіўшы вашыя душы. 25 Таму мы
згодна вырашылі выбраць мужоў і паслаць іх да вас з нашымі ўмілаванымі
Барнабам і Паўлам, людзьмі, 26 якія аддаюць жыццё сваё дзеля імя Пана нашага
Езуса Хрыста. 27 Мы паслалі да вас Юду і Сілу, якія абвесцяць вам тое самае
словамі. 28 Бо Дух Святы і мы пастанавілі не ўскладаць на вас болей ніякага
цяжару, акрамя таго, што неабходна: 29 устрымлівайцеся ад ахвяраў ідалам і ад
крыві, ад таго, што задушана, і ад распусты. Калі будзеце ўстрымлівацца ад
гэтага, добра зробіце. Бывайце здаровы».

30 Пасланыя прыйшлі ў Антыёхію і, сабраўшы людзей, аддалі ліст. 31 Калі
яго прачыталі, узрадаваліся гэтаму настаўленню. 32 Юда і Сіла, якія самі былі
прарокамі, многімі прамовамі настаўлялі і ўмацоўвалі братоў. 33 Прабыўшы там
пэўны час, браты адпусцілі іх з супакоем да тых, хто іх паслаў. (34) 35 Але Павел і
Барнаба заставаліся ў Антыёхіі, навучаючы і абвяшчаючы разам з многімі
іншымі слова Пана.

36 Праз некалькі дзён Павел сказаў Барнабу: «Вернемся і наведаем нашых
братоў ва ўсіх гарадах, дзе мы абвяшчалі слова Пана, і паглядзім, як яны
маюцца». 37 Тады Барнаба хацеў узяць з сабой Яна, якога звалі Маркам. 38 Але
Павел палічыў, што не трэба браць з сабой таго, хто адышоў ад іх у Памфіліі і
не спадарожнічаў ім у працы. 39 Адбылася спрэчка, так што яны разышліся адзін
з адным. Тады Барнаба ўзяў з сабой Марка і паплыў на Кіпр, 40 а Павел выбраў
сабе Сілу і, калі браты даручылі яго ласцы Пана, вырушыў. 41 І праходзіў праз
Сірыю і Цыліцыю, умацоўваючы Касцёлы.

## 16 (1-40)

1 Прыбыў у Дэрбэ і Лістру. І вось, быў там адзін вучань па імені Цімафей,
сын жанчыны юдэйкі, якая паверыла, і бацькі грэка. 2 Браты ў Лістры і Іконіі
добра сведчылі пра яго. 3 Таму Павел захацеў узяць яго з сабою. І, узяўшы,
абрэзаў яго дзеля юдэяў, якія былі ў тых мясцінах. Бо ўсе ведалі, што бацька
ягоны быў грэкам. 4 Калі праходзілі праз гарады, наказвалі ім захоўваць
пастановы, прынятыя Апосталамі і старэйшымі ў Ерузалеме. 5 Касцёлы ж
умацоўваліся ў веры і штодня ўзрасталі ў колькасці.

6 Прайшлі Фрыгію і краіну галатаў, і Дух Святы стрымліваў іх ад
абвяшчэння слова ў Азіі. 7 Прыйшоўшы ў Мізію, спрабавалі ісці ў Бітынію, але
Дух Езуса не дазволіў ім. 8 Тады яны прайшлі Мізію і сышлі ў Трааду. 9 І меў
Павел уначы аб’яўленне: стаяў перад ім чалавек, нейкі македонец, і прасіў яго,
кажучы: «Прыйдзі ў Македонію і дапамажы нам!» 10 Пасля гэтага аб’яўлення мы
адразу вырашылі адправіцца ў Македонію, упэўненыя, што Бог паклікаў нас
абвяшчаць там Евангелле.

[11]Калі мы адплылі з Траады, прыбылі проста ў Саматракію, а на другі дзень у Неапаль, [12]і адтуль у Філіпы, першы ў той частцы Македоніі горад, калонію. У гэтым горадзе мы прабылі некалькі дзён. [13]У дзень шабату выйшлі за браму да ракі, дзе, як мы лічылі, адбывалася малітва. Сеўшы, мы размаўлялі з жанчынамі, якія сабраліся. [14]І адна жанчына, па імені Лідзія, гандлярка пурпурам з горада Тыятыра, якая пакланялася Богу, таксама слухала. Пан адкрыў яе сэрца, каб яна прыняла словы Паўла. [15]Калі ж яна ахрысцілася і дом яе, папрасіла, кажучы: «Калі лічыце, што я верная Пану, увайдзіце ў дом мой і заставайцеся». І прымусіла нас.

[16]Калі мы ішлі на малітву, нам сустрэлася адна служанка, якая мела духа прадбачання і прадказаннямі здабывала сваім гаспадарам вялікія сродкі. [17]Ідучы за Паўлам і за намі, яна крычала: «Гэтыя людзі — слугі Найвышэйшага Бога, яны абвяшчаюць нам шлях збаўлення». [18]Так рабіла яна шмат дзён. Але Павел, раззлаваўшыся, павярнуўся і сказаў духу: «У імя Езуса Хрыста загадваю табе выйсці з яе». І той выйшаў адразу. [19]Тады гаспадары яе, убачыўшы, што знікла надзея на іхні заробак, схапілі Паўла і Сілу і пацягнулі на рынак да правадыроў. [20]І прывёўшы іх да кіраўнікоў, сказалі: «Гэтыя людзі, будучы юдэямі, падбухторваюць наш горад [21]і прапаведуюць звычаі, якія нам, рымскім грамадзянам, нельга прымаць і выконваць». [22]І паўстаў натоўп супраць Паўла і Сілы, а кіраўнікі сарвалі з іх адзенне і загадалі біць розгамі. [23]Нанёсшы ім шмат удараў, кінулі ў вязніцу і загадалі вартаўніку пільна сцерагчы іх. [24]Атрымаўшы такі загад, ён кінуў іх ва ўнутраную вязніцу і надзеў ім на ногі калодкі.

[25]Каля поўначы Павел і Сіла маліліся, спяваючы гімны Богу, а вязні слухалі іх. [26]Раптам пачаўся вялікі землятрус, так што задрыжэлі падмуркі вязніцы. Адразу адчыніліся ўсе дзверы і апалі ўсе путы. [27]Калі вартаўнік прачнуўся і ўбачыў адчыненыя дзверы вязніцы, выцягнуў меч і хацеў забіць сябе, думаючы, што ўсе вязні ўцяклі. Але Павел ускрыкнуў моцным голасам: [28]«Не рабі сабе нічога благога, бо ўсе мы тут». [29]Папрасіўшы святла, вартаўнік увайшоў і, трасучыся, упаў перад Паўлам і Сілам. [30]Затым вывеў іх вонкі і сказаў: «Спадары, што мне трэба рабіць, каб збавіцца?» Яны адказалі яму: [31]«Вер у Пана Езуса, і збавішся ты і дом твой». [32]І абвясцілі слова Пана яму і ўсім, хто быў у яго доме. [33]І ў тую гадзіну ночы ён прыняў іх, абмыў раны і адразу ж ахрысціўся сам і ўвесь дом ягоны. [34]Потым завёў іх у свой дом, накрыў ім стол і з усім домам сваім цешыўся, што паверыў у Бога.

[35]Калі настаў дзень, прэтары паслалі ліктараў, кажучы: «Вызвалі гэтых людзей!» [36]Вартаўнік паведаміў пра гэта Паўлу: «Кіраўнікі сказалі адпусціць вас. Таму цяпер выходзьце і ідзіце ў супакоі». [37]Але Павел сказаў ім: «Нас, рымскіх грамадзян, прылюдна білі, кінулі ў вязніцу, а цяпер нас употай выпускаюць. Не, няхай прыйдуць і самі вывядуць нас». [38]Ліктары паведамілі гэтыя словы кіраўнікам. Тыя спалохаліся, пачуўшы, што гэта рымскія грамадзяне. [39]Яны прыйшлі і перапрасілі. І, вывеўшы, папрасілі іх пакінуць горад. [40]Калі яны выйшлі з вязніцы, прыйшлі ў Лідзію, а калі ўбачылі братоў, далі ім настаўленні і адышлі.

## 17 (1-34)

[1]Прайшоўшы праз Амфіпаль і Апалонію, яны прыйшлі ў Тэсалоніку, дзе
была юдэйская сінагога. [2]Павел сваім звычаем увайшоў да іх і тры шабаты
дыскутаваў з імі на падставе Пісання, [3]адкрываючы і даказваючы ім, што
Хрыстус павінен быў цярпець і ўваскрэснуць з мёртвых і што: «Гэты Езус,
якога вам прапаведую, — гэта Хрыстус». [4]І некаторыя з іх паверылі і
далучыліся да Паўла і Сілы — вялікае мноства пабожных грэкаў і нямала
знатных жанчын. [5]Тады юдэі, ахопленыя зайздрасцю, узялі з рынку нейкіх
нягодных людзей, сабралі натоўп і пачалі бунтаваць горад. Падышоўшы да
дому Ясона, яны шукалі іх, каб вывесці да народу. [6]Калі ж не знайшлі іх,
пацягнулі Ясона і некаторых братоў да гарадскіх уладаў з крыкам: «Тыя, што
бунтуюць увесь свет, прыйшлі і сюды, [7]а Ясон прыняў іх. Усе яны паступаюць
насуперак загадаў цэзара, кажучы, што ёсць іншы кароль — Езус». [8]І
ўстрывожыўся народ і гарадскія ўлады, якія слухалі гэта. [9]Але, атрымаўшы
даволі шмат ад Ясона і іншых, адпусцілі іх.

[10]Тады браты адразу ж уначы адправілі Паўла і Сілу ў Бэрэю. Прыбыўшы
туды, яны пайшлі ў юдэйскую сінагогу. [11]Тутэйшыя былі больш прыхільныя,
чым у Тэсалоніках, яны прынялі слова з усёй ахвотай і кожны дзень даследавалі
Пісанне, ці так яно ёсць. [12]І многія з іх паверылі — і з грэцкіх знатных жанчын,
і з мужчын нямала. [13]Калі ж даведаліся тэсаланікійскія юдэі, што і ў Бэрэі Павел
прапаведуе Божае слова, прыйшлі таксама туды ды падбухторвалі і бунтавалі
натоўп. [14]Тады браты адразу ж адправілі Паўла, каб ён пайшоў да самага мора,
а Сіла і Цімафей засталіся там. [15]Тыя, хто спадарожнічаў Паўлу, правялі яго аж
да Атэн. Атрымаўшы наказ для Сілы і Цімафея, каб як мага хутчэй прыйшлі да
яго, вярнуліся.

[16]Калі Павел чакаў іх у Атэнах, яго дух абураўся на від горада,
перапоўненага ідаламі. [17]Ён размаўляў у сінагозе з юдэямі і з тымі, хто шанаваў
Бога, і штодня з сустрэчнымі на рынку. [18]Спрачаліся з ім некаторыя з
эпікурэйскіх і стаіцкіх філосафаў. Адны казалі: «Што хоча сказаць гэты
пустаслоў?» Іншыя: «Здаецца, ён прапаведуе чужых багоў», — таму што ён
прапаведаваў ім Езуса і ўваскрасенне. [19]Яны ўзялі яго і прывялі на Арэапаг,
кажучы: «Ці можам даведацца, што гэта за новае вучэнне, якое ты абвяшчаеш?
[20]Бо нешта дзіўнае ўкладаеш нам у вушы. Мы хочам ведаць, што гэта азначае?»
[21]А ўсе атэнцы ды іншаземцы, якія жылі там, нічым так ахвотна не займаліся, як
апавяданнем або слуханнем чагосьці новага.

[22]Павел стаў пасярод Арэапагу і сказаў: «Атэнцы, я бачу, што ва ўсім вы
вельмі рэлігійныя. [23]Бо, калі я праходзіў і аглядаў вашыя святыні, я знайшоў і
алтар, на якім было напісана: “Невядомаму Богу”. Тое, чаму вы, не ведаючы,
пакланяецеся, я абвяшчаю вам. [24]Бог, які стварыў свет і ўсё, што ў ім, будучы
Панам неба і зямлі, жыве не ў святынях, збудаваных рукамі, [25]і не з рук
чалавечых прымае служэнне, быццам бы маючы ў нечым патрэбу. Ён сам дае
ўсяму жыццё, дыханне і ўсё. [26]Ён учыніў з аднаго ўвесь род чалавечы, каб
рассяліўся ён па ўсёй паверхні зямлі. Прызначыў устаноўленыя часы і межы іх
рассялення, [27]каб шукалі Бога. Можа намацаюць і знойдуць Яго, бо Ён недалёка

ад кожнага з нас. [28]Бо ў Ім мы жывём, рухаемся і існуём, як некаторыя з вашых
паэтаў сказалі:
“І мы род Ягоны”.
[29]Дык калі мы належым да Божага роду, то не павінны думаць, што бостваь
падобна да золата ці срэбра, ці каменя, да выявы мастацтва і чалавечай фантазіі.
[30]Не зважаючы на часы няведання, Бог цяпер наказвае людзям, каб усе і
паўсюль каяліся, [31]бо Ён вызначыў дзень, калі будзе справядліва судзіць свет
праз Чалавека, якога прызначыў, і даў доказ усім, уваскрасіўшы Яго з
мёртвых».
[32]Калі пачулі пра ўваскрасенне мёртвых, адныя насміхаліся, а другія казалі:
«Паслухаем цябе пра гэта іншым разам». [33]Так Павел выйшаў ад іх. [34]Але
некаторыя людзі далучыліся да яго і паверылі. Сярод іх быў і Дыянізій
Арэапагіт, і жанчына па імені Дамарыс, ды іншыя разам з імі.

## 18 (1-28)

[1]Пасля гэтага Павел пакінуў Атэны і прыбыў у Карынт. [2]І, знайшоўшы
нейкага юдэя па імені Аквіла, родам з Понта, які нядаўна прыйшоў з Італіі, і
Прысцылу, жонку ягоную, — бо Клаўдзій загадаў усім юдэям пакінуць Рым, —
прыйшоў да іх. [3]А паколькі займаўся тым жа рамяством, заставаўся ў іх і
працаваў. Яны ж займаліся вырабам намётаў. [4]Кожны шабат ён прамаўляў у
сінагозе і пераконваў юдэяў і грэкаў.
[5]Калі прыйшлі з Македоніі Сіла і Цімафей, Павел заняўся навучаннем і
сведчыў юдэям, што Езус ёсць Месіяй. [6]А калі яны пярэчылі і блюзнерылі, ён
абтрос сваю вопратку і сказаў ім: «Кроў вашая на галаву вашую. Я — чысты.
Цяпер іду да язычнікаў». [7]Адышоўшы адтуль, прыйшоў у дом аднаго чалавека
па імені Ціт Юст, які шанаваў Бога і дом якога быў побач з сінагогай. [8]Крысп,
кіраўнік сінагогі, паверыў у Пана з усім домам сваім. І шмат хто з карынцянаў,
якія слухалі, паверылі і ахрысціліся.
[9]Пан ноччу ў аб’яўленні сказаў Паўлу: «Не бойся, але кажы і не маўчы,
[10]таму што Я з табою і ніхто не адважыцца зрабіць табе зло, бо ў Мяне шмат
людзей у гэтым горадзе». [11]І прабыў год і шэсць месяцаў, навучаючы іх Божаму
слову.
[12]Калі Галіён быў праконсулам у Ахаі, юдэі аднадушна паўсталі супраць
Паўла і прывялі яго ў суд, [13]кажучы: «Ён намаўляе людзей шанаваць Бога
нязгодна з Законам». [14]Калі Павел хацеў адкрыць вусны, Галіён сказаў юдэям:
«Юдэі, калі б размова ішла пра нейкую крыўду ці несправядлівы ўчынак, я б
выслухаў вас, [15]але калі спрэчка ідзе пра слова і пра імёны, і пра ваш Закон, то
разглядайце самі. Я не хачу быць суддзёю ў гэтых справах». [16]І выгнаў іх з суда.
[17]Схапіўшы кіраўніка сінагогі Састэна, усе білі яго перад судом. А Галіёну не
было да гэтага ніякай справы.
[18]Павел жа прабыў там яшчэ даволі шмат дзён і, развітаўшыся з братамі,
паплыў у Сірыю, а з ім Прысцыла і Аквіла. У Кенхрах ён абстрыг сабе галаву,
бо даў такое абяцанне. [19]А калі прыйшоў у Эфес, пакінуў іх там, а сам увайшоў
у сінагогу і размаўляў там з юдэямі. [20]Калі ж яны прасілі пабыць у іх даўжэй, ён

не згадзіўся, [21]а на развітанне сказаў ім: «Я вярнуся да вас, калі захоча Бог». І
адплыў з Эфеса. [22]Прыбыўшы ў Цэзарэю, ён увайшоў і прывітаў Касцёл, і
адышоў у Антыёхію.
[23]Правёўшы там пэўны час, выйшаў і праходзіў па чарзе краіну галатаў і
Фрыгію, умацоўваючы ўсіх вучняў.
[24]Нейкі юдэй, па імені Аполас, родам з Александрыі, чалавек красамоўны і
знаўца Пісанняў, прыйшоў у Эфес. [25]Быў ён настаўлены на шлях Пана і з
запалам прамаўляў і вучыў старанна пра Езуса, хоць і ведаў толькі хрост Яна.
[26]Ён пачаў адважна прамаўляць у сінагозе. Калі яго пачулі Прысцыла і Аквіла,
прынялі яго да сябе і растлумачылі яму шлях Божы. [27]А калі ён збіраўся ісці ў
Ахаю, браты напісалі вучням, каб яны прынялі яго. Калі ён прыйшоў туды,
шмат дапамагаў тым, хто паверыў дзякуючы ласцы. [28]Ён адважна пераконваў
юдэяў, публічна даказваючы праз Пісанні, што Езус — гэта Месія.

## 19 (1-40)

[1]Калі Аполас быў у Карынце, Павел прайшоў праз горныя ваколіцы,
спусціўся ў Эфес і, знайшоўшы там некаторых вучняў, [2]сказаў ім: «Ці атрымалі
вы Духа Святога, калі паверылі?» А яны адказалі яму: «Мы і не чулі, што ёсць
Дух Святы». [3]Ён спытаў: «У што ж вы хрысціліся?» Яны адказалі: «У хрост
Яна». Павел сказаў: [4]«Ян хрысціў хростам пакаяння, кажучы людзям, каб
паверылі ў таго, хто ідзе пасля яго, гэта значыць, у Езуса». [5]Калі гэта пачулі,
ахрысціліся ў імя Пана Езуса. [6]І калі Павел усклаў на іх рукі, Дух Святы сышоў
на іх. Яны гаварылі мовамі і прарочылі. [7]А было ўсіх каля дванаццаці чалавек.
[8]Увайшоўшы ў сінагогу, ён адважна прамаўляў тры месяцы, прапаведуючы
і пераконваючы наконт Божага Валадарства. [9]А калі некаторыя заўпарціліся і не
верылі, зласловячы шлях Пана перад народам, Павел пакінуў іх, узяўшы з
сабою вучняў, і штодня прапаведаваў у школе Тырана. [10]Гэта працягвалася два
гады, так што ўсе жыхары Азіі, юдэі і грэкі, пачулі слова Пана. [11]Бог рабіў
надзвычайныя цуды рукамі Паўла, [12]так што на хворых ускладалі хусты і паясы
з цела яго, і хваробы пакідалі іх, і злыя духі выходзілі з іх.
[13]Нават некаторыя з вандроўных юдэйскіх заклінальнікаў заклікалі над
апантанымі злымі духамі імя Пана Езуса, кажучы: «Заклінаю вас Езусам, якога
прапаведуе Павел». [14]Рабілі гэта сем сыноў пэўнага Скевы, юдэйскага
першасвятара. [15]Але злы дух адказаў ім: «Я знаю Езуса і ведаю Паўла, а вы хто
такія?» [16]І накінуўся на іх чалавек, у якім быў злы дух, і, перамогшы абодвух,
адолеў іх так, што яны ўцяклі з таго дому голыя і параненыя. [17]І стала вядома
пра гэта сярод усіх юдэяў і грэкаў, якія жылі ў Эфесе. І страх ахапіў іх усіх, і
праслаўлялася імя Пана Езуса. [18]Многія з тых, хто паверыў, прыходзілі,
вызнаючы і адкрываючы свае ўчынкі. [19]Нямала з тых, хто займаўся
чарадзействам, сабраўшы кнігі свае, спалілі іх перад усімі. А калі падлічылі іх
кошт, аказалася іх на пяцьдзесят тысяч срэбных манет. [20]Так моцна ўзрастала і
ўмацоўвалася слова Пана.
[21]Калі гэта здзейснілася, Павел вырашыў прайсці Македонію і Ахаю і
накіравацца ў Ерузалем, кажучы: «Калі пабуду там, дык я павінен убачыць і

Рым». [22]І паслаў у Македонію дваіх з тых, хто служыў яму, Цімафея і Эраста, а сам пэўны час заставаўся ў Азіі.

[23]У гэты час узнялося немалое абурэнне з прычыны шляху Пана. [24]Нейкі Дэметрый, што займаўся срэбрам і рабіў срэбныя святыні Артэміды, прыносіў немалы прыбытак рамеснікам. [25]Ён сабраў іх і іншых падобных рамеснікаў і сказаў: «Мужы, вы ведаеце, што наш дастатак залежыць ад гэтага занятку. [26]А вы бачыце і чуеце, што не толькі ў Эфесе, але і амаль па ўсёй Азіі гэты Павел пераканаў і адвярнуў нямала народу, кажучы, што не з’яўляецца багамі тое, што зроблена рукамі. [27]Гэта пагражае нам не толькі тым, што наша доля прыйдзе ў заняпад, але і святыня вялікай багіні Артэміды будзе лічыцца нічога не вартай, і пазбавіцца велічы тая, якой пакланяецца ўся Азія і свет».

[28]Пачуўшы гэта, яны напоўніліся гневам і закрычалі: «Вялікая Артэміда Эфеская!» [29]Увесь горад ахапіла хваляванне. Схапіўшы спадарожнікаў Паўла, македонцаў Гая і Арыстарха, яны ўсёй грамадой кінуліся да тэатра. [30]Калі Павел хацеў увайсці ў натоўп, вучні не пусцілі яго. [31]Таксама некаторыя кіраўнікі правінцыі, якія прыязна ставіліся да яго, паслалі да яго з просьбай, каб не паказваўся ў тэатры. [32]Тым часам адны крычалі адно, другія — іншае, бо сход быў бязладны і многія не ведалі, чаго сабраліся.

[33]Тады з натоўпу вывелі Аляксандра, якога юдэі выштурхнулі наперад. Аляксандр даў знак рукой, што хоча апраўдацца перад народам. [34]Калі ж даведаліся, што ён юдэй, усе ў адзін голас і каля дзвюх гадзін крычалі: «Вялікая Артэміда Эфеская!» [35]Урэшце гарадскі пісар супакоіў народ, сказаўшы: «Эфесцы, хто з людзей не ведае, што горад Эфес — захавальнік святыні вялікай Артэміды і яе выявы, што ўпала з неба? [36]А паколькі гэта бясспрэчна, то вам трэба захоўваць спакой і не рабіць нічога паспешна. [37]Вы прывялі гэтых людзей, якія не блюзнерылі і не зняважылі нашай багіні. [38]Калі ж Дэметрый і рамеснікі, што з ім, маюць супраць кагосьці справу, дык на рынку адбываюцца суды і ёсць праконсулы. Няхай абвінавачваюць адны другіх. [39]А калі вы дабіваецеся чагосьці іншага, то гэта вырашыцца на законным сходзе. [40]Бо нам пагражае абвінавачанне ў сённяшнім хваляванні, і няма ніякай прычыны, каб апраўдаць наша зборышча». Сказаўшы гэта, ён распусціў сход.

## 20 (1-38)

[1]Калі сунялося хваляванне, Павел склікаў вучняў і, падбадзёрыўшы іх, развітаўся з імі ды адправіўся ў Македонію. [2]Прайшоўшы праз гэтыя мясціны і заахвоціўшы многімі словамі, прыйшоў у Грэцыю. [3]Прабыў ён там тры месяцы. Калі захацеў адплысці ў Сірыю, юдэі ўчынілі супраць яго змову, таму ён вырашыў вяртацца праз Македонію. [4]Яго суправаджалі Сапатэр, сын Пірра, з Бэрэі, Арыстарх і Сэкунд з тэсаланікійцаў, а таксама Гай з Дэрбэ і Цімафей, Тыхік і Трафім з Азіі. [5]Яны пайшлі наперад і чакалі нас у Траадзе. [6]А мы адплылі з Філіпаў пасля свята Праснакоў і праз пяць дзён прыбылі адтуль у Трааду, дзе правялі сем дзён.

[7]У першы дзень пасля шабату, калі мы сабраліся на ламанне хлеба, Павел прамовіў да іх, бо збіраўся зранку адысці, і зацягнуў сваю прамову да поўначы.

[8]У святліцы, дзе мы сабраліся, было шмат свяцільнікаў. [9]Адзін юнак, па імені
Эўтых, які сядзеў на акне, глыбока заснуў, калі Павел доўга гаварыў. Урэшце,
зморашы сном, ён зваліўся з трэцяга паверху, і яго паднялі мёртвым. [10]Павел,
спусціўшыся, прытуліў яго і сказаў: «Не трывожцеся, бо душа яго ў ім!»
[11]Затым падняўшыся, ён ламаў хлеб і спажываў, і яшчэ доўга прамаўляў да
самай раніцы, а пасля адышоў. [12]А юнака павялі жывым і на радасць многім.

[13]Тады мы селі раней на карабель і паплылі ў Ас, каб забраць адтуль Паўла,
бо ён так загадаў, пажадаўшы ісці пехатою. [14]Калі ж ён сустрэўся з намі ў Асе,
мы забралі яго і прыбылі ў Мітылену. [15]Адплыўшы адтуль, мы назаўтра
прысталі насупраць Хіёса, а на другі дзень накіраваліся ў Самос, а на наступны
– мы прыбылі ў Мілет. [16]Бо Павел вырашыў абмінуць Эфес, каб не марнаваць
час у Азіі. Ён спяшаўся, каб па магчымасці прыбыць у Ерузалем на дзень
Пяцідзесятніцы.

[17]Паслаўшы з Мілета ў Эфес, Павел паклікаў старэйшых Касцёла. [18]А калі
яны прыйшлі да яго, сказаў ім: «Вы ведаеце, што з першага дня майго прыходу
ў Азію, я ўвесь час быў з вамі. [19]Служыў Пану з усёй пакораю і ў слязах ды
сярод выпрабаванняў, якія сустрэлі мяне з-за подступаў юдэйскіх. [20]І як я не
мінаў нічога карыснага, пра што б ні абвяшчаў і чаму б ні вучыў вас публічна і
па дамах, [21]даючы сведчанне юдэям і грэкам пра навяртанне да Бога і пра веру ў
Пана нашага Езуса. [22]І вось цяпер, прымушаны Духам, я іду ў Ерузалем, не
ведаючы, што мяне там сустрэне, [23]апроч таго, што Дух Святы ў кожным
горадзе сведчыць, кажучы, што чакаюць мяне кайданы і ўціск. [24]Але маё жыццё
для мяне не вартае нічога. Толькі б скончыў бег свой і служэнне, якое прыняў
ад Пана Езуса, каб даць сведчанне пра Евангелле Божай ласкі.

[25]І вось цяпер я ведаю, што больш не ўбачыце майго аблічча вы ўсе, сярод
якіх я хадзіў, абвяшчаючы Божае Валадарства. [26]Таму сведчу вам сёння, што я
чысты ад крыві ўсіх, [27]бо не ўхіляўся я ад абвяшчэння вам усёй волі Божай.
[28]Дбайце пра сябе і ўвесь статак, у якім Дух Святы паставіў вас біскупамі, каб
вы пасвілі Касцёл Божы, які Ён прыдбаў уласнай крывёю. [29]Ведаю, што пасля
майго адыходу ўвойдуць да вас ваўкі лютыя, якія не пашкадуюць статка. [30]І з
вас саміх паўстануць людзі, якія будуць казаць падступна, каб пацягнуць за
сабою вучняў. [31]Таму чувайце, памятаючы, што я тры гады ўдзень і ўначы не
пераставаў вучыць кожнага з вас са слязьмі.

[32]А сёння даручаю вас Богу і слову Ягонай ласкі, якое можа ўмацаваць вас
і даць спадчыну між усіх асвячаных. [33]Ні срэбра, ні золата, ні вопраткі я ні ад
кога не пажадаў. [34]Самі ведаеце, што гэтыя рукі служылі патрэбам маім і тых,
хто быў са мною. [35]Ва ўсім я паказаў вам, што, так працуючы, трэба дапамагаць
слабым, памятаючы словы Пана Езуса, якія Ён сказаў: “Больш шчасця ў тым,
каб даваць, чым у тым, каб браць!”».

[36]Сказаўшы гэта, ён укленчыў і маліўся разам з імі ўсімі. [37]Тады ўсе ўзнялі
вялікі плач, кідаліся Паўлу на шыю і цалавалі яго. [38]Найбольш смуткавалі з-за
слова, якое ён сказаў, што ўжо не ўбачаць аблічча ягонага. І праводзілі яго да
карабля.

## 21 (1-40)

1 Калі мы, расстаўшыся з імі, адплылі, то простым шляхам прыбылі на Кос, затым — на Родас, а адтуль — у Патару. 2 Знайшоўшы карабель, які плыў у Фінікію, мы селі і паплылі. 3 А калі паказаўся Кіпр, мы абмінулі яго злева і паплылі ў Сірыю. І прысталі ў Тыры, бо там трэба было разгрузіць карабель. 4 Знайшоўшы вучняў, мы засталіся там на сем дзён. Яны ж, натхнёныя Духам, казалі Паўлу не ісці ў Ерузалем. 5 Пасля гэтых дзён мы выбраліся ў дарогу, а ўсе з жонкамі і дзецьмі праводзілі нас за горад. І, укленчыўшы на беразе і памаліўшыся, 6 мы развіталіся адзін з адным і селі на карабель, а яны вярнуліся да сябе. 7 На заканчэнне нашага плавання мы прыбылі з Тыра ў Пталемаіду, дзе прывіталі братоў і прабылі ў іх адзін дзень.

8 Назаўтра адышлі і прыбылі ў Цэзарэю. Увайшоўшы ў дом дабравесніка Філіпа, аднаго з сямі дыяканаў, мы засталіся ў яго. 9 Ён меў чатыры дачкі, дзевы, якія прарочылі. 10 У той час, як мы былі ў іх шмат дзён, прыйшоў з юдэі пэўны прарок, па імені Агабос. 11 Ён увайшоў да нас, узяў Паўлаў пояс і, звязаўшы сабе рукі і ногі, сказаў: «Так кажа Дух Святы: “Таго чалавека, чый гэта пояс, так звяжуць у Ерузалеме юдэі і аддадуць у рукі язычнікаў”». 12 Калі мы гэта пачулі, угаворвалі Паўла разам з тамтэйшымі братамі не хадзіць у Ерузалем. 13 Аднак Павел адказаў: «Навошта плачаце і засмучаеце маё сэрца? Бо я дзеля імя Пана Езуса гатовы не толькі быць звязаным, але і памерці ў Ерузалеме». 14 Паколькі яго не ўдалося ўгаварыць, мы супакоіліся, сказаўшы: «Няхай будзе воля Пана!»

15 Пасля гэтых дзён мы падрыхтаваліся і вырушылі ў Ерузалем. 16 З намі пайшлі некаторыя вучні з Цэзарэі і прывялі да нас нейкага Мнасона з Кіпра, даўняга вучня, які меў нас прыняць.

17 Калі мы прыйшлі ў Ерузалем, браты радасна прынялі нас. 18 На другі дзень Павел пайшоў з намі да Якуба, куды прыйшлі таксама ўсе старэйшыя. 19 Прывітаўшы іх, ён падрабязна расказваў пра тое, што Бог учыніў сярод язычнікаў праз яго служэнне. 20 Пачуўшы гэта, яны ўславілі Бога і сказалі яму: «Бачыш, брат, колькі тысяч юдэяў паверыла, а ўсе яны руплíўцы Закону. 21 Яны чулі пра цябе, быццам ты юдэяў, якія жывуць сярод язычнікаў, вучыш адступаць ад Майсея, кажучы, каб не абразалі дзяцей і не трымаліся звычаяў. 22 Дык што ж? Яны напэўна пачуюць, што ты прыйшоў. 23 Зрабі тое, што мы кажам табе. У нас ёсць чатыры мужчыны, якія далі абяцанне. 24 Вазьмі іх з сабой, і ачысціся разам з імі, і заплаці за іх выдаткі, каб яны абстрыглі свае галовы. І даведаюцца ўсе, што ім кажуць пра цябе няпраўду і што ты сам выконваеш Закон. 25 А што да тых язычнікаў, якія паверылі, мы напісалі ім сваю параду, каб яны стрымліваліся ад спажывання страў, прынесеных у ахвяру ідалам, ад крыві і мяса задушаных жывёл, ад распусты».

26 Тады Павел узяў тых мужчын і назаўтра, ачысціўшыся з імі, увайшоў у святыню і абвясціў пра заканчэнне дзён ачышчэння, калі за кожнага з іх павінна быць прынесена ахвяра.

27 Калі ж заканчваліся сем дзён, юдэі з Азіі, убачыўшы яго ў святыні, падбухторылі ўвесь народ і ўсклалі на яго рукі 28 з крыкам: «Мужы ізраэльскія,

дапамажыце! Гэты чалавек усюды ўсіх навучае супраць народу, Закону і гэтага
месца. Яшчэ і грэкаў увёў у святыню і апаганіў гэтае святое месца». [29]Бо перад
тым яны бачылі ў горадзе з ім Трафіма эфесца і казалі пра яго, што Павел увёў
яго ў святыню. [30]Увесь горад узрушыўся, і збегся народ. Яны схапілі Паўла,
выцягнулі яго са святыні і адразу зачынілі дзверы. [31]Калі хацелі забіць яго, да
тысячніка кагорты дайшла вестка, што ўвесь Ерузалем збунтаваўся. [32]Ён адразу
ж узяў жаўнераў і сотнікаў і прыбег да іх. Убачыўшы тысячніка і жаўнераў, яны
перасталі біць Паўла. [33]Тады тысячнік, наблізіўшыся, узяў яго і загадаў скаваць
яго падвойнымі ланцугамі. Дапытваўся таксама, хто ён і што ўчыніў. [34]У
натоўпе ж усе крычалі сваё. Не здолеўшы даведацца нічога пэўнага з-за шуму,
ён загадаў завесці яго ў крэпасць. [35]Калі быў на прыступках, жаўнеры мусілі
несці яго з прычыны націску натоўпу. [36]Бо шмат народу ішло за ім і крычала:
«Забі яго!»

[37]Пры ўваходзе ў крэпасць Павел сказаў тысячніку: «Ці можна сказаць табе
нешта?» Той адказаў: «Ты гаворыш па-грэцку? [38]Значыць ты не той егіпцянін,
які нядаўна ўчыніў бунт і вывеў на пустыню чатыры тысячы бандытаў?»
[39]Павел адказаў: «Я юдэй з Тарса, грамадзянін вядомага горада ў Цыліцыі.
Прашу цябе, дазволь мне звярнуцца да народу». [40]Калі ж той дазволіў, Павел,
стоячы на прыступках, даў народу знак рукой. Калі настала поўная ціша,
прамовіў па-габрэйску, кажучы:

## 22 (1-30)

[1]«Браты і айцы, цяпер паслухайце маё апраўданне перад вамі». [2] Пачуўшы,
што ён гаворыць з імі на габрэйскай мове, яшчэ больш суцішыліся. І ён сказаў:
[3]«Я — юдэй, нарадзіўся ў Тарсе, што ў Цыліцыі, але выхаваны ў гэтым горадзе,
каля ног Гамаліэля, навучаны старанна айцоўскаму Закону, руплівец Божы, як і
ўсе вы сёння. [4]Я бязлітасна пераследаваў гэты шлях, звязваў і кідаў у вязніцу
мужчын і жанчын, [5]як засведчаць пра мяне першасвятар і ўсе старэйшыя.
Атрымаўшы ад іх лісты, я пайшоў да братоў у Дамаск, каб тых, што былі там,
звязаць і прывесці ў Ерузалем для пакарання.

[6]Калі я быў у дарозе і набліжаўся да Дамаска, раптам каля поўдня заззяла
вакол мяне вялікае святло з неба. [7]Я ўпаў на зямлю і пачуў голас, які казаў мне:
«Саўле, Саўле, чаго ты пераследуеш Мяне?» [8]Я адказаў: «Хто Ты, Пане?» Ён
сказаў мне: «Я — Езус Назаранін, якога Ты пераследуеш». [9]Тыя, хто быў са
мною, бачылі святло, але не чулі голасу таго, хто гаварыў са мною. [10]Тады я
сказаў: «Што мне рабіць, Пане?» А Пан сказаў мне: «Устань і ідзі ў Дамаск, і
там табе будзе сказана пра ўсё, што трэба табе рабіць». [11]Паколькі я перастаў
бачыць ад бляску таго святла, мае спадарожнікі прывялі мяне за руку ў Дамаск.

[12]Нейкі Ананія, чалавек пабожны паводле Закону, пра якога ўсе жыхары
юдэйскія добра сведчылі, [13]прыйшоў да мяне і, стаўшы, сказаў мне: «Браце
Саўле, будзь зноў відушчым!» І ў той жа момант я ўбачыў яго. [14]Ён жа сказаў:
“Бог айцоў нашых прадвызначыў цябе, каб ты пазнаў волю Ягоную, убачыў
Справядлівага і пачуў голас з вуснаў Ягоных, [15]бо ты будзеш Яго сведкам перад

усімі людзьмі ў тым, што ты бачыў і чуў. [16]А цяпер чаго ты марудзіш? Устань,
ахрысціся і змый грахі свае, паклікаўшы Яго імя”.
[17]Калі я вярнуўся ў Ерузалем і маліўся ў святыні, мяне агарнула
захапленне. [18]Я ўбачыў Яго, і Ён казаў мне: “Паспяшайся і выйдзі хутчэй з
Ерузалема, бо не прымуць твайго сведчання пра Мяне”. [19]І я сказаў: “Пане, яны
ведаюць, што я кідаў у вязніцу і біў у сінагогах тых, хто верыць у Цябе. [20]І калі
пралівалася кроў Стэфана, Твайго сведкі, я сам стаяў побач і згаджаўся з яго
забойствам, і сцярог адзенне забойцаў ягоных. [21]І Ён сказаў мне: “Ідзі, Я пашлю
цябе далёка, да язычнікаў”».
[22]Да гэтага слова слухалі яго, а пасля ўзнялі крык, кажучы: «Прэч яго з
зямлі — такі не мае права жыць!» [23]Калі яны з крыкам рвалі адзенне і ўздымалі
пыл у паветра, [24]тысячнік загадаў адвесці яго ў крэпасць і праз бічаванне
даведацца, з якой прычыны так крычалі на яго.
[25]Але калі расцягнулі яго для бічавання, Павел сказаў сотніку: «Хіба
дазволена вам без суда бічаваць рымляніна?» [26]Пачуўшы гэта, сотнік пайшоў і
паведаміў тысячніку, кажучы: «Што ты збіраешся рабіць? Гэта ж рымлянін».
[27]Тады тысячнік, падышоўшы да яго, сказаў: «Скажы мне, ты рымскі
грамадзянін?» Ён адказаў: «Так». [28]Тысячнік сказаў: «Я за вялікія грошы набыў
гэтае грамадзянства». Павел сказаў: «А я нарадзіўся ў ім». [29]Тады адразу
адступіліся ад яго тыя, што хацелі дапытаць яго, а тысячнік спалохаўся, калі
даведаўся, што ён загадаў звязаць рымскага грамадзяніна.
[30]На другі дзень, жадаючы дакладна ведаць, у чым юдэі абвінавачваюць
Паўла, вызваліў яго і загадаў сабрацца першасвятарам і ўсяму Сінэдрыёну.
Потым прывёў Паўла і паставіў перад імі.

## 23 (1-35)

[1]Павел уважліва паглядзеў на Сінэдрыён і сказаў: «Браты, я да сённяшняга
дня жыў перад Богам з чыстым сумленнем». [2]Першасвятар Ананія, які стаяў
перад ім, загадаў біць яго па вуснах. [3]Тады Павел сказаў яму: «Бог ударыць
цябе, сцяна пабеленая. Ты ж сядзіш, каб судзіць мяне паводле Закону, а
загадваеш біць мяне супраць Закону?» [4]Тыя, што стаялі побач, сказалі:
«Першасвятара Божага зневажаеш?» [5]Павел адказаў: «Я не ведаў, браты, што ён
першасвятар. Бо напісана: “*Не будзеш зласловіць кіраўніку народу свайго*”».
[6]Заўважыўшы, што адна частка — гэта садукеі, а другая — фарысеі, Павел
усклікнуў у Сінэдрыёне: «Браты, я фарысей, сын фарысея; мяне судзяць за
надзею і ўваскрашэнне памерлых». [7]Калі ён сказаў гэта, паміж фарысеямі і
садукеямі пачалася спрэчка, і сход падзяліўся. [8]Бо садукеі сцвярджаюць, што
няма ні ўваскрашэння, ні анёла, ні духа, а фарысеі прызнаюць адно і другое.
[9]Падняўся вялікі крык. І некаторыя кніжнікі з фарысейскага боку спрачаліся,
кажучы: «Нічога дрэннага ў гэтым чалавеку мы не знаходзім. А што калі дух ці
анёл прамаўлялі да яго?» [10]Паколькі спрэчка нарастала, тысячнік, баючыся, каб
не разарвалі Паўла, загадаў жаўнерам пайсці і забраць яго ад іх ды адвесці ў
крэпасць. [11]У наступную ноч Пан з’явіўся перад ім і сказаў: «Бадзёрся! Бо як ты
сведчыў пра Мяне ў Ерузалеме, так належыць табе сведчыць і ў Рыме».

[12]Калі настаў дзень, некаторыя юдэі пакляліся не есці і не піць, пакуль не
заб'юць Паўла. [13]Было больш за сорак тых, што так пакляліся. [14]Яны прыйшлі
да першасвятароў і старэйшых і сказалі: «Мы пакляліся нічога не есці, пакуль
не заб'ём Паўла. [15]Таму цяпер вы разам з Сінэдрыёнам дайце знаць тысячніку,
каб заўтра прывёў яго да вас, як быццам вы хочаце дакладней даведацца пра яго
справу. А мы гатовыя забіць яго, перш чым ён наблізіцца».

[16]Калі пра гэты подступ пачуў сын Паўлавай сястры, ён прыйшоў у
крэпасць і паведаміў пра гэта Паўлу. [17]Тады Павел паклікаў аднаго з сотнікаў і
сказаў: «Завядзі гэтага юнака да тысячніка, бо ён мае яму штосьці сказаць».
[18]Той узяў яго, прывёў да тысячніка і сказаў: «Вязень Павел паклікаў мяне і
папрасіў прывесці да цябе гэтага юнака, бо ён мае табе штосьці сказаць».
[19]Тысячнік узяў яго за руку, адвёў убок і спытаўся: «Што ты маеш сказаць
мне?» [20]Ён адказаў: «Юдэі змовіліся прасіць цябе, каб заўтра ты прывёў Паўла
ў Сінэдрыён, быццам бы яны хочуць дакладней даведацца пра яго. [21]Але не
слухайся іх, таму што больш за сорак чалавек затаіліся на яго. Яны пакляліся
сабе ні есці, ні піць, пакуль не заб'юць яго. Яны ўжо напагатове і чакаюць
твайго распараджэння».

[22]Тады тысячнік адпусціў юнака, сказаўшы: «Нікому не кажы, што ты
расказаў мне гэта». [23]І, паклікаўшы двух сотнікаў, сказаў: «Падрыхтуйце мне на
трэцюю гадзіну ночы дзвесце жаўнераў і семдзесят коннікаў, і дзвесце
стральцоў, каб вырушыць у Цэзарэю». [24]Падрыхтуйце таксама жывёл, каб
пасадзіць Паўла і адвезці яго бяспечна да намесніка Фелікса». [25]Напісаў таксама
ліст такога зместу: [26]«Клаўдзій Лізій вітае высокашаноўнага намесніка Фелікса.
[27]Юдэі схапілі гэтага чалавека і хацелі забіць яго, але, калі я даведаўся, што ён
рымскі грамадзянін, умяшаўся са сваімі жаўнерамі і ўратаваў яго. [28]Жадаючы
даведацца, з якой прычыны яго абвінавачваюць, я прывёў яго ў іхні Сінэдрыён
[29]і ўбачыў, што яго вінавацяць у спрэчных пытаннях Закону іхняга і што няма
на ім ніякай віны, якая заслугоўвае смерці або кайданаў. [30]А калі мне данеслі,
што юдэі ўчынілі змову супраць гэтага чалавека, я адразу паслаў яго да цябе,
загадаўшы таксама абвінаваўцам выступіць супраць яго перад табою».

[31]Тады жаўнеры на ягоны загад узялі Паўла і павялі ноччу ў Антыпатрыду.
[32]Назаўтра, пакінуўшы коннікаў ісці з ім, вярнуліся ў крэпасць. [33]Тыя ж,
прыйшоўшы ў Цэзарэю, перадалі намесніку ліст і паставілі перад ім Паўла.
[34]Прачытаўшы ліст, той спытаўся, з якой ён правінцыі. Даведаўшыся, што ён з
Цыліцыі, сказаў: [35]«Я выслухаю цябе, калі прыйдуць твае абвінаваўцы». І
загадаў трымаць яго пад вартаю ў прэторыі Ірада.

## 24 (1-27)

[1]Праз пяць дзён прыйшоў першасвятар Ананія з некаторымі старэйшынамі
і нейкім прамоўцам Тэртулам, якія перад намеснікам скардзіліся на Паўла.
[2]Калі ж яго паклікалі, Тэртул пачаў абвінавачваць, кажучы: «Дзякуючы табе мы
дасягнулі вялікага спакою і для народу гэтага добрыя рэчы сталіся праз тваю
абачлівасць. [3]Мы заўсёды і ўсюды прызнаём гэта, дастойны Фелікс, з усёй
удзячнасцю. [4]Але каб занадта не турбаваць цябе, прашу: будзь ласкавы коратка

выслухаць нас. [5]Мы пераканаліся, што гэты чалавек — гэта зараза, і што ён
выклікае неспакой сярод усіх юдэяў ва ўсім свеце і з’яўляецца правадыром
секты назарэяў. [6]Ён асмеліўся нават зняважыць святыню, і мы схапілі яго. [(7)]
[8]Ты можаш сам распытацца і давецацца ад яго пра ўсё, у чым мы яго
вінавацім». [9]Юдэі таксама згодна пацвердзілі, што гэта так.

[10]Тады намеснік даў слова Паўлу, і ён сказаў: «Ведаю, што шмат гадоў ты
з’яўляешся суддзёю гэтага народу, таму я буду смела бараніцца. [11]Ты можаш
даведацца, што не больш за дванаццаць дзён таму я прыйшоў у Ерузалем
пакланіцца Богу. [12]І ні ў святыні, ні ў сінагогах, ні ў горадзе яны не знаходзілі,
каб я спрачаўся з кім-небудзь ці падбухторваў натоўп. [13]Таму не могуць
даказаць табе таго, у чым цяпер абвінавачваюць мяне. [14]Але прызнаюся табе,
што згодна са шляхам, які яны называюць сектай, я служу Богу айцоў, верачы
ва ўсё, што напісана ў Законе і ў Прароках, [15]і маючы надзею на Бога, што будзе
ўваскрашэнне, справядлівых і несправядлівых, чаго яны і самі чакаюць. [16]Таму і
я руплюся, каб заўсёды мець бездакорнае сумленне перад Богам і людзьмі.
[17]Пасля многіх гадоў я прыйшоў, каб падаць майму народу міласціну і
прынашэнні. [18]За гэтым знайшлі мяне ў святыні, калі я ачышчаўся, без натоўпу
і шуму, [19]нейкія юдэі з Азіі, якім трэба было б з’явіцца перад табою і
абвінавачваць мяне, калі штосьці маюць супраць. [20]Няхай гэтыя людзі самі
скажуць, ці знайшлі на мне якое беззаконне, калі я стаяў перад Сінэдрыёнам.
[21]Хіба толькі тое, што я выкрыкнуў, стоячы сярод іх: “За ўваскрашэнне
памерлых я сёння на судзе перад вамі!”».

[22]Выслухаўшы гэта, Фелікс адклаў іх справу, бо дакладна быў знаёмы з
тым, што датычыла іх шляху, сказаўшы: «Калі прыбудзе тысячнік Лізій,
разгледжу вашу справу». [23]А сотніку загадаў пільнаваць Паўла, але пакідаючы
яму пэўную свабоду і не забараняючы нікому з яго блізкіх прыслугоўваць яму.

[24]Праз некалькі дзён Фелікс прыйшоў з жонкай сваёй Друзілай, якая была
юдэйкай, і паклікаў Паўла, і слухаў яго пра веру ў Езуса Хрыста. [25]А паколькі
ён расказваў пра справядлівасць, стрыманасць і будучы суд, Фелікс, напоўнены
страхам, сказаў: «Цяпер ідзі, у адпаведны час паклічу цябе». [26]Ён таксама
спадзяваўся, што Павел дасць яму грошай, таму часта клікаў яго і размаўляў з
ім.

[27]Але праз два гады на месца Фелікса прыбыў Порцый Фэст. Каб дагадзіць
юдэям, Фелікс пакінуў Паўла ў зняволенні.

## 25 (1-27)

[1]Фэст, прыбыўшы ў сваю правінцыю, праз тры дні адбыў з Цэзарэі ў
Ерузалем. [2]Тады першасвятары і ўплывовыя юдэі паскардзіліся яму на Паўла і
прасілі яго [3]зрабіць ласку і прыслаць Паўла ў Ерузалем, бо задумвалі забіць яго
ў дарозе. [4]Але Фэст адказаў, што Паўла сцерагуць у Цэзарэі, і ён сам неўзабаве
туды адправіцца. [5]«Тыя з вас, хто можа, — сказаў ён, — няхай пойдуць разам са
мною і, калі ёсць штосьці заганнае ў гэтым чалавеку, няхай абвінавацяць яго».
[6]Прабыўшы ў іх не больш за восем або дзесяць дзён, ён вярнуўся ў Цэзарэю. На
другі дзень сеў на судовы пасад і загадаў прывесці Паўла. [7]Калі прывялі, сталі

вакол яго юдэі, якія прыйшлі з Ерузалема, і выказвалі супраць яго шмат цяжкіх
абвінавачванняў, аднак не маглі іх даказаць. [8]Павел у сваё апраўданне сказаў:
«Я ні ў чым не правініўся ні супраць юдэйскага Закону, ні супраць святыні, ні
супраць цэзара». [9]Тады Фэст, жадаючы дагадзіць юдэям, адказаў Паўлу:
«Хочаш ісці ў Ерузалем і там стаць перад судом у гэтых справах?» [10]Павел
адказаў: «Я стаю перад судом цэзара, дзе мяне і належыць судзіць. Я не
пакрыўдзіў юдэяў нічым, і ты добра ведаеш гэта. [11]Калі я ўчыніў злачынства і
зрабіў штосьці вартае смерці, я не адмаўляюся памерці. Але калі няма нічога, у
чым яны вінавацяць мяне, то ніхто не можа выдаць мяне ім. Я звяртаюся да
цэзара!» [12]Тады Фэст, пагаварыўшы з радай, адказаў: «Ты звярнуўся да цэзара,
да цэзара і пойдзеш».

[13]Праз некалькі дзён кароль Агрыпа і Бэрэніка прыбылі ў Цэзарэю
прывітаць Фэста. [14]Паколькі яны прабылі там шмат дзён, Фэст растлумачыў
справу Паўла каралю, кажучы: «Фелікс пакінуў у вязніцы аднаго чалавека.
[15]Калі я быў у Ерузалеме, першасвятары і старэйшыны Ізраэля падалі супраць
яго скаргу, патрабуючы асуджэння. [16]Я адказаў ім, што рымляне не маюць
звычаю асуджаць каго-небудзь на смерць, пакуль абвінавачаны не стане перад
абвінаваўцамі і не атрымае магчымасці бараніцца ад закідаў. [17]Калі яны
прыйшлі сюды, то я не марудзіў, але ў наступны дзень распачаў судовы працэс
і загадаў прывесці таго чалавека. [18]Абвінаваўцы сталі вакол яго, але не падалі
ніякага абвінавачвання ў тых злачынствах, якія я падазраваў. [19]Яны спрачаліся з
ім пра іх вераванні і пра нейкага памерлага Езуса, пра якога Павел сцвярджае,
што Ён жывы. [20]Не ведаючы, як вырашаць такія справы, я спытаўся ў яго, ці не
хоча ён пайсці ў Ерузалем і там судзіцца за гэта. [21]Калі ж Павел пажадаў
застацца пад вартаю, пакуль яго справу не разгледзіць цэзар, я загадаў сцерагчы
яго, пакуль не адпраўлю да цэзара». [22]Агрыпа сказаў Фэсту: «Я хацеў бы
паслухаць гэтага чалавека». «Заўтра, — сказаў той, — ты пачуеш яго».

[23]Назаўтра Агрыпа і Бэрэніка прыйшлі з усёй пампезнасцю і ўвайшлі ў
судовую залу з тысячнікамі і гарадской знаццю. На загад Фэста прывялі Паўла.
[24]І сказаў Фэст: «Кароль Агрыпа і ўсе прысутныя з намі мужы, вы бачыце таго,
супраць каго ўвесь народ юдэйскі выступіў перада мною ў Ерузалеме і тут з
воклічамі, што ён не павінен больш жыць. [25]Але я пераканаўся, што ён не зрабіў
нічога вартага смерці, а паколькі ён сам звяртаўся да цэзара, я вырашыў
паслаць да яго. [26]Я не маю нічога канкрэтнага, каб напісаць пра яго гаспадару.
Таму я прывёў яго да вас, асабліва да цябе, кароль Агрыпа, каб пасля гэтага
разбіральніцтва мне было што напісаць. [27]Бо мне здаецца неразважным пасылаць
вязня, не падаўшы абвінавачанняў супраць яго».

## 26 (1-32)

[1]Агрыпа сказаў Паўлу: «Табе дазволена гаварыць за самога сябе». Тады
Павел працягнуў руку і прамовіў у сваю абарону: [2]«Кароль Агрыпа, я лічу сябе
шчаслівым, што сёння павінен абараняцца перад табой ад усяго, у чым мяне
вінавацяць юдэі. [3]Ты найбольш ведаеш усе юдэйскія звычаі і спрэчныя пытанні.
Таму прашу велікадушна выслухаць мяне. [4]Жыццё маё з маладосці, якое ад

пачатку праходзіла ў Ерузалеме сярод народу майго, ведаюць усе юдэі. [5]Яны
ведаюць мяне здаўна і могуць засведчыць, што я жыў як фарысей паводле
самай строгай плыні нашай рэлігіі. [6]А цяпер стаю перад судом за надзею на
абяцанне, якое Бог даў айцам нашым, [7]а яго спаўнення чакаюць нашыя
дванаццаць пакаленняў, днём і ноччу няспынна служачы Богу. За гэтую надзею,
кароль, юдэі вінавацяць мяне! [8]Чаму вы лічыце неверагодным, што Бог
уваскрашае памерлых?

[9]Я таксама лічыў, што павінен шмат зрабіць супраць імені Езуса з
Назарэта. [10]Я гэта і рабіў у Ерузалеме. Атрымаўшы ўладу ад першасвятароў, я
многіх святых кінуў у вязніцу. Калі іх забівалі, даваў згоду. [11]І часта па ўсіх
сінагогах я караў іх і прымушаў блюзнерыць, а будучы раз'юшаным на іх,
пераследаваў нават у чужых гарадах.

[12]Калі дзеля гэтага я ішоў у Дамаск з уладай і даручэннем ад
першасвятароў, [13]апоўдні я ўбачыў на дарозе, о кароль, святло з неба, ярчэйшае
за святло сонца, якое асвятляла мяне і тых, хто ішоў разам са мною. [14]Калі мы
ўсе ўпалі на зямлю, я пачуў голас, які казаў мне па-габрэйску: "Саўл, Саўл,
чаму ты пераследуеш Мяне? Цяжка табе ісці супраць ражна". [15]Я спытаўся:
"Хто ты, Пане?" Ён адказаў: "Я Езус, якога ты пераследуеш. [16]Але падыміся і
ўстань на ногі свае, бо для таго Я з'явіўся табе, каб зрабіць цябе слугою і
сведкам таго, што ты бачыў і што Я адкрыю табе. [17]Я вызвалю цябе ад гэтага
народу і ад язычнікаў, да якіх Я пасылаю цябе [18]адкрыць ім вочы, каб яны
павярнуліся ад цемры да святла і ад улады сатаны да Бога, каб праз веру ў Мяне
атрымалі дараванне грахоў і спадчыну сярод асвячаных".

[19]Таму, кароль Агрыпа, я не быў непаслухмяным нябеснаму бачанню, [20]але
прапаведаваў спачатку жыхарам Дамаска і Ерузалема, а потым па ўсёй зямлі
юдэйскай і язычнікам, каб яны каяліся і навярталіся да Бога, здзяйсняючы
справы, што вынікаюць з пакаяння. [21]За гэта юдэі схапілі мяне ў святыні і
спрабавалі забіць. [22]Але, атрымаўшы дапамогу ад Бога, я аж да гэтага дня
працягваю сведчыць малому і вялікаму. Я не кажу нічога, акрамя таго, што, па
словах прарокаў і Майсея, павінна было адбыцца: [23]што Хрыстус павінен быў
цярпець і абвясціць, як першы сярод уваскрослых, святло народу гэтаму і
язычнікам».

[24]Калі ён так абараняўся, Фэст гучна сказаў: «Павел, ты ашалеў! Вялікая
вучонасць даводзіць цябе да вар'яцтва». [25]Але Павел сказаў: «Я не шалею,
дастойны Фэст, але абвяшчаю словы праўдзівыя і прадуманыя. [26]Бо ведае пра
гэта кароль, перад якім я смела кажу гэта. Я ўпэўнены, што нічога з гэтага не
схавана ад яго, бо адбывалася не ў закутку. [27]Ці верыш ты, кароль Агрыпа,
прарокам? Я ведаю, што верыш». [28]Агрыпа сказаў Паўлу: «Яшчэ крыху і
пераканаеш мяне стаць хрысціянінам!» [29]Павел сказаў: «Я маліў бы Бога, каб
калісьці, не толькі ты, але і ўсе, хто сёння чуе мяне, сталі такімі, як я, акрамя
гэтых кайданаў!»

[30]Тады кароль і намеснік, а таксама Бэрэніка, і тыя, што сядзелі разам з імі,
падняліся. [31]Адышоўшы ўбок, яны гаварылі паміж сабою, кажучы: «Гэты
чалавек не робіць нічога вартага смерці і кайданаў». [32]І сказаў Агрыпа Фэсту:
«Можна было б вызваліць гэтага чалавека, калі б ён не звяртаўся да цэзара».

## 27 (1-44)

[1]Калі было вырашана, што мы паплывем у Італію, Паўла і некаторых
іншых вязняў аддалі сотніку па імені Юлій з кагорты цэзара. [2]Мы селі на
адраміцкі карабель, які мусіў плыць каля азіяцкіх мясцін. З намі быў Арыстарх,
македонец з Тэсалонікаў. [3]На другі дзень мы прысталі ў Сідоне. Юлій ставіўся
да Паўла добразычліва і дазволіў яму наведаць сяброў і скарыстаць з іх апекі.
[4]Адправіўшыся адтуль, мы прыбылі на Кіпр, бо дзьмулі супраціўныя вятры.
[5]Пераплыўшы мора каля Цыліцыі і Памфіліі, мы прыбылі ў Ліцыйскую Міру.
[6]Там сотнік знайшоў александрыйскі карабель, які плыў у Італію, і пасадзіў нас
на яго. [7]Плывучы паволі шмат дзён, мы з цяжкасцю дабраліся да ваколіцы
Кнідаса. Паколькі вецер не пускаў нас далей, мы падплылі да Крыта насупраць
Сальмона. [8]А калі мы ледзве мінулі яго, прыплылі да месца, якое завецца
Добрыя Прыстані, непадалёк ад горада Ласая. [9]Калі прайшло ўжо шмат часу і
плаванне было небяспечным, а пост ужо скончыўся, Павел пачаў асцерагаць,
[10]кажучы ім: «Мужы, я бачу што плаванне будзе з перашкодамі і вялікімі
стратамі не толькі грузу і карабля, але і нашаму жыццю». [11]Але сотнік больш
давяраў стырнавому і ўладальніку карабля, чым словам Паўла. [12]А паколькі
прыстань была непрыстасаваная для зімоўкі, большасць раіла адплысці адтуль,
каб, калі можна, дабрацца да Фенікса і перазімаваць у гэтай крыцкай прыстані,
адкрытай на паўднёва-заходнія і паўночна-заходнія вятры.

[13]Калі ж падзьмуў паўднёвы вецер, яны, мяркуючы, што ўжо дасягнуць
сваёй мэты, паднялі якары і паплылі ўзджоўж узбярэжжа Крыта. [14]Але
неўзабаве наляцеў з боку вострава ўраганны вецер, які называецца эўракілон.
[15]Карабель падхапіла так, што ён не мог працівіцца ветру, таму мы паддаліся і
нас панесла. [16]Падплыўшы да пэўнага вострава, які завецца Каўда, мы ледзьве
ўтрымалі ратавальную лодку. [17]Падняўшы яе, мы сталі выкарстоўваць
дапаможныя сродкі, каб абвязаць карабель. Баючыся наляцець на Сірт, мы
спусцілі плаваючы якар і так нас насіла. [18]Паколькі бура пачала нас моцна
гнаць, на другі дзень мы сталі выкідаць груз. [19]А на трэці — сваімі рукамі
паскідалі з карабля аснастку. [20]Калі многія дні не паказвалася ні сонца, ні зоркі,
а моцная бура налягала, знікла ўсякая надзея на нашае выратаванне.

[21]Паколькі доўга не елі, Павел стаў сярод іх і сказаў: «Мужы, трэба было
слухацца мяне і не адплываць ад Крыта, і мы абмінулі б гэтыя пакуты і страты.
[22]Цяпер жа прашу вас бадзёрыцца, таму што ніводзін з вас не загіне, толькі
карабель. [23]Бо сёння ўначы з’явіўся мне анёл Бога, якому належу і якому служу,
[24]і сказаў: “Не бойся, Павел, бо табе трэба з’явіцца перад цэзарам, і вось, Бог
падараваў табе ўсіх, хто плыве з табою”. [25]Таму бадзёрцеся, мужы, бо я веру
Богу, што так станецца, як мне было сказана. [26]Мы маем быць выкінутымі на
нейкі востраў».

[27]На чатырнаццатую ноч, як мы блукалі па Адрыятыцы, каля поўначы
маракі пачалі здагадвацца, што яны набліжаюцца да нейкай зямлі. [28]Калі
памералі глыбіню, атрымалася дваццаць сажняў. Адплыўшы крыху далей,
памералі зноў, атрымалася пятнаццаць сажняў. [29]Баючыся трапіць на
камяністыя месцы, мы кінулі з кармы чатыры якары і маліліся, каб настаў

дзень. 30Калі ж маракі хацелі ўцячы з карабля і спусцілі лодку на мора, робячы
выгляд, нібы хочуць закінуць якар з носа, 31Павел сказаў сотніку і жаўнерам:
«Калі яны не застануцца на караблі, вы не зможаце ўратавацца». 32Тады
жаўнеры перарэзалі вяроўкі на лодцы, і яна ўпала.

33Перад наступленнем дня Павел угаворваў усіх падсілкавацца, кажучы:
«Сёння чатырнаццаты дзень вы чакаеце без ежы, не спажываючы нічога. 34Таму
прашу вас прыняць ежу, бо гэта для вашага ўратавання, таму што нікому з вас
не ўпадзе волас з галавы». 35Сказаўшы гэта, узяў хлеб і падзякаваў Богу перад
усімі і, паламаўшы, стаў есці. 36Тады ўсе падбадзёрыліся і таксама прынялі ежу.
37Было ж нас усіх на караблі дзвесце семдзесят чалавек. 38Наеўшыся, яны сталі
аблягчаць карабель, выкідаючы збожжа ў мора.

39Калі настаў дзень, яны не распазналі зямлі, аднак убачылі нейкі заліў з
пясчаным берагам, куды вырашылі прыстаць з караблём. 40Абрэзаўшы якары і
пакінуўшы іх у моры, аслабілі вяроўкі стырна і, падняўшы пярэдні ветразь па
ветры, скіраваліся да берага. 41Аднак натрапілі на мель і пасадзілі на ёй
карабель. Нос карабля зарыўся і застаўся нерухомы, а карма пачала
развальвацца пад напорам хваляў. 42Жаўнеры вырашылі пазабіваць вязняў, каб
ніхто, выплыўшы, не ўцёк. 43Але сотнік, жадаючы ўратаваць Паўла, стрымаў іх
ад гэтага і загадаў усім, хто ўмее плаваць, першымі выскачыць і выйсці на
бераг. 44Астатнія плылі, хто на дошках, хто на чым-небудзь з карабля. І такім
чынам усе бяспечна дабраліся да берага.

## 28 (1-31)

1Калі мы ўратаваліся, даведаліся, што востраў называецца Мальта.
2Мясцовыя жыхары былі да нас надзвычай ласкавыя. Быў дождж і холад, і яны
распалілі агонь і прынялі кожнага з нас. 3Калі Павел назбіраў кучу галля і
падкідаў у вогнішча, тады змяя выскачыла ад жару і ўчапілася яму за руку.
4Мясцовыя жыхары, убачыўшы гэта, казалі адзін аднаму: «Відаць, гэты чалавек
— забойца, раз яму, уратаванаму з мора, багіня справядлівасці не дазваляе
жыць». 5Але ён скінуў гада ў агонь і не зазнаў ніякай шкоды. 6Яны ж чакалі,
што ён апухне або імгненна ўпадзе мёртвым. Але, калі доўга чакалі і ўбачылі,
што нічога дрэннага з ім не адыблося, змянілі думку і казалі, што ён бог.

7Вакол гэтага месца знаходзіліся ўладанні правіцеля вострава па імені
Публій. Ён прыняў нас і гасцінна частаваў тры дні. 8Бацька Публія ляжаў,
хворы на гарачку і дызентэрыю. Павел увайшоў да яго, памаліўся і, усклаўшы
рукі, аздаравіў яго. 9Пасля гэтага і іншыя на востраве, што мелі хваробы,
прыходзілі і атрымлівалі аздараўленне. 10Яны праявілі да нас вялікую пашану, а
калі мы адплывалі, далі ўсё, што было патрэбна

11Праз тры месяцы мы адплылі на караблі, што зімаваў на гэтым востраве.
Гэта быў александрыйскі карабель з выявай Дыяскураў. 12Прыплыўшы ў
Сіракузы, мы заставаліся там тры дні. 13Адплыўшы адтуль, дабраліся да Рэгіі. А
паколькі праз дзень падзьмуў паўднёвы вецер, мы на другі дзень прыбылі ў
Путэолі. 14Там мы знайшлі братоў, і яны ўпрасілі нас пабыць у іх сем дзён. І так
мы прыбылі ў Рым. 15А там, калі браты пачулі пра нас, выйшлі насустрач нам

аж да Апіевай плошчы і Трох Корчмаў. Убачыўшы братоў, Павел падзякаваў
Богу і падбадзёрыўся.
[16]Калі мы прыйшлі ў Рым, Паўлу дазволілі жыць асобна з жаўнерам, які
яго вартаваў. [17]Праз тры дні Павел склікаў да сябе самых уплывовых юдэяў і,
калі яны сышліся, сказаў ім: «Браты, я не зрабіў нічога супраць народу ці
звычаяў айцоў, аднак мяне як вязня з Ерузалема перадалі ў рукі рымлянаў.
[18]Яны дапыталі мяне і хацелі адпусціць, бо ў мяне не было ніякай смяротнай
віны.
[19]Калі юдэі пярэчылі гэтаму, я вымушаны быў звярнуцца да цэзара, але не
для таго, каб у нечым вінаваціць свой народ. [20]Таму я паклікаў вас, каб
пабачыцца і паразмаўляць з вамі, бо за надзею Ізраэля я закаваны ў гэтыя
кайданы». [21]Яны сказалі яму: «Мы не атрымоўвалі пра цябе лістоў з Юдэі, і
ніводзін з братоў не прыйшоў і не абвясціў ці сказаў пра цябе нічога дрэннага.
[22]Але мы хочам пачуць ад цябе, што ты думаеш, бо нам вядома пра гэтую секту,
таму што паўсюль выступаюць супраць яе».
[23]Прызначыўшы яму дзень, прыйшлі да яго многія ў гасціну. Ён з ранку аж
да вечара расказваў ім і сведчыў пра Божае Валадарства, і пераконваў іх пра
Езуса на падставе Закону Майсея і Прарокаў. [24]Адных пераконвала сказанае, а
другія не верылі. [25]Будучы ж нязгоднымі паміж сабой, яны пачалі адыходзіць,
калі Павел сказаў адну рэч: «Добра Дух Святы сказаў айцам нашым праз
прарока Ісаю:
[26]*“Пайдзі да народу гэтага і скажы:*
*Вушамі слухаеце і не разумееце,*
*вачыма глядзіце і не бачыце.*
[27]*Зачарсцвела сэрца народу гэтага,*
*і вушамі ледзь чуюць,*
*і вочы свае заплюшчылі,*
*і вушамі не пачулі,*
*і сэрцам не зразумелі,*
*і не навярнуліся,*
*каб Я іх аздаравіў”.*
[28]Няхай будзе вядома вам, што да язычнікаў было скіравана гэтае Божае
збаўленне, і яны пачуюць!» (29)
[30]Жыў Павел цэлыя два гады ў нанятым ім доме і прымаў усіх, хто
прыходзіў да яго, [31]прапаведуючы Божае Валадарства і навучаючы пра Пана
Езуса Хрыста без перашкоды і з усёй адвагай.